БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ № 13 (13545)

23 — 29 сакавіка 1992 года Цана 1 рубель 50 кап. (па падпісцы — 35 кап.)

*У нумары:*



# ПРЫВІТАННЕ, БЕЛАРУСКІЯ СКАЎТЫ!




**21 сакавіка адбылася падзея, важнасць якой цяжка пераацаніць. Гэта — Устаноўчы Сойм Аб'яднання беларускіх Скаўтаў (АБС). Як слушна заўважылі ўдзельнікі гэтай імпрэзы, зараз у школе пануе анархія, і менавіта скаўцкі рух павінен даць выйсце маладой энергіі, накіраваць яе ў стваральнае рэчышча. Ні піянерыя, ні іншыя выдумкі заідэалагізаванай педагогіцы такога выйсця не давалі. Скаўцкі рух — гэта не ідэалогія, супольні скаўтаў лічаць сваёй мэтай спрыяць развіццю моладзі як фізічна, так і духоўна. Гэта не ваенізаваная арганізацыя, як лічаць многія. Хаця скаўтынг узнік як арганізацыя для падрыхтоўкі маладых разведчыкаў, цяпер ён лічыць сваёй першапачатковай задачай выхаванне шматграннага, моцнага, духоўна развітога чалавека.**

**Трэба адзначыць, што як беларускія, так і іншыя скаўцкія арганізацыі лічаць сваім падмуркам веру ў Госпада. На Устаноўчым Сойме прысутнічалі святары розных канфесій. Будзем спадзявацца, што нованароджаны беларускі скаўцкі рух не будзе разарваны паміж рознымі рэлігійнымі ды палітычнымі плынямі, і паслужыць святой справе — выхаванню ў беларускіх юнакоў і дзяўчат любві да Бацькаўшчыны.**

**Больш падрабязна пра Устаноўчы Сойм АБС Вы зможаце прачытаць у наступным нумары нашай газеты.**

## ALFA

# АНТЫСТРАХ

Мясцовая гасцініца больш стасавалася да кашмарных аповедаў Агаты Крысці, чым да творчай камандзіроўкі. Старая драўляная падлога — дошкі жаласна рыпелі ад кожнага кроку. Пашарпаныя сцены — першапачатковы колер шпалераў не змагла б устанавіць аніякая экспертыза. Маленькае, пакрытае пылам акенца. У такім пакоі знявераная, спакутаваная душа, напэўна, здольная разлічыцца з жыццём. Лепшага месца не адшукаць. Бр-р-р...

Сярод ночы з-за сцяны раздаўся дзікі лямант: "Чалавека забілі!". Крутнуўшы ручку гасцінічнага тэлевізара, сцішыла гук. Данёсся тупат ног, віскат дзвярэй. У адзіным парыве я ледзь не апынулася на калідоры. Аднак прыгадала шматзначнае папярэджанне дзяжурнай пра нядобрую славу іхняй гасцініцы і абмежавалася тым, што толькі вызірнула вонкі праз прыадчыненыя дзверы. Кагосьці сіня-чырвонага, дзякуй Богу, жывога, выносілі з суседняга пакоя. "Ён больш п'яны, чым пакалечаны. Яго варта весці ў выцвярэзнік, а не ў бальніцу", — раздражнёна заўважыў урач. Як толькі "хуткая" з'ехала, за сцяной ізноў звонка заляскалі аб стол карты. Міліцыі не бачна, не чутно. Стомленая, я ўжо пачала засынаць. Праз ліпкую дрымоту раз-пораз усплывала дыктарка на экране нявыключанага тэлевізара, якая з салодкай усмешкай даводзіла праграму перадач: "Дама, туз, кароль, шасцёрка...". Не прайшло і дзесяці хвілін, як ізноў завухкалі глухія ўдары нечага цвёрдага аб нешта мяккае, зарыпела мэбля ў суседнім нумары, нехта з лёту ўрэзаўся ў тонкую перагародку з маім пакоем. Чыясьці "карта" была яўна біта. Раптам — "дзынь". Тэлефон. "Галуба мая, — плаксівы жаночы голас дрыжэў, гатовы захлынуцца слязамі. — Выклічце міліцыю, вы ж з рэдакцыі, можа вас паслухаюць, бо мая просьба, што вада праз пясок. Я ж тут зусім адна, няма нават каму дапамагчы". Я ўявіла сабе гэтую, нейкую выцвілую, стомленую жанчынку пасярод старой раённай гасцініцы, дзе ў дзверы штовечар з пагрозамі і лаянкай увальваюцца нахабныя п'яныя дзецюкі. Калі яна не адчыняе зашчапку, пагражаюць ёй бруднымі кулакамі. І так кожны дзень.

Міліцыю, зразумела, я выклікала. Але вось твар гэтай запалоханай ушчэнт жанчынкі, гэты бясконцы страх аніяк забыць не магу. Грамадству, якое плодзіць баязліўцаў, якое прыніжае людзей пастаянным страхам, нічога годнага не наканавана. Сістэма, пабудаваная на боязі, доўга не вытрымлівае. Пакуль людзям не надасца адчуванне надзейнасці, стабільнасці, абароненасці — будзе панаваць цёмны, глухі страх. Перад днём сённяшнім і заўтрашнім, перад мажлівымі войнамі і дыктатурамі, перад левымі і правымі, і нават вось перад гэтым брудным падонкам, які зневажае нас, нікога не баючыся, на кожным кроку. Спадары кіраўнікі, дайце людзям адчуць сябе не эмігрантамі, а гаспадарамі на сваёй зямлі, не сродкам, а мэтай пераўтварэння, вярніце чалавеку радасць жыцця і сапраўдны ягоны кошт!

Алена Агібалава.

## ШТО ГАВОРАЦЬ ПРЭЗІДЭНТЫ

На прэс-канферэнцыі, якая адбылася пасля заканчэння Кіеўскай сустрэчы, кіраўнікам незалежных дзяржаў было зададзена пытанне: "Ці адпавядае назва "Садружнасць" ейнаму зместу на сённяшні дзень?' Вось што яны адказалі.

Л.Краўчук: "Гэтая назва вызначана як мара".

Б.Ельцын: "Садружнасць — гэта дынамічны працэс. Я ўпэўнены, ён прывядзе да таго, што мара стане рэальнасцю".

Н.Назарбаеў: "За здзяйсненне мары трэба змагацца".

І.Карымаў: "Садружнасць — не проста мара, а неабходнасць".

М.Снегур: "Да Садружнасці трэба імкнуцца".

А.Акаеў: "Садружнасць дакладна адпавядае патрэбнасцям краін".

Л.Тэр-Петрасян: "Садружнасць — гэта непазбежны працэс".

С.Шушкевіч: "СНД мае больш падстаў называцца Садружнасцю, чым СССР — Саюзам".

Р.Набіеў: "Трэба імкнуцца, каб Садружнасць з мары стала існасцю".

## Першаму каналу — БЫЦЬ?

Прафесіяналізму тэлежурналістаў Астанкінскага канала можна пазайздросціць. Адзінае, што насцярожвае,- палітычная накіраванасць "Першай праграмы". Паўстае нават пытанне аб тым, каб гэты канал расфарміраваць... У сувязі з гэтым на прэс-канферэнцыі, што адбылася ў Мінску пасля вяртання Станіслава Шушкевіча з Кіева было зададзена пытанне аб лёсе тэлерадыёкампаніі "Астанкіна". Старшыня Вярхоўнага Савета адказаў так: "Гэтае пытанне не вырашана. Прапанавана прапрацаваць яго кіраўнікам урадаў. Тут назіраецца моцнае процідзеянне ў падыходах. Фінансаваць яго патрабуюць, але ж прэтэнзій да кампаніі шмат. Выкарыстоўваецца яна як прапагандысцкая структура ў ацэнцы палітычных падзей, і шчыра кажучы, я знаходжуся ў вялікім сумненні наконт яе лёсу. Чаму нам не пашукаць іншыя каналы інфармацыі, скажам, Сі-Эн-Эн? "Астанкіна" вельмі тэндэнцыйна падбірае інфармацыю..."

Што ж, будзем дзяліць 1-ы канал?

## ТАТАРСКІ РЭФЕРЭНДУМ: раскол Расіі?

Як вядома, 21 сакавіка, нягледзячы на пратэсты прэзідэнта Ельцына, Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі, Канстытуцыйнага суда Расіі, у Татарстане адбыўся рэферэндум. У спісы для галасаванняў было ўнесена 2 мільёны 610 тысяч 227 грамадзян рэспублікі. Да ўрнаў з'явілася на 477 тыс. менш. На пытанне рэферэндуму "так" адказалі 61,4 працэнта, "не" – 37,2 працэнта. Здаецца, большасць – за аддзяленне ад Расіі? Вельмі спрэчна. Аналіз ходу рэферэндуму дае падставы меркаваць, што думка татар і людзей іншых нацыянальнасцей, якія жывуць на тэрыторыі Татарстана, падзялілася, як кажуць, "фіфті-фіфті". Так што зноў штурмаваць Казань не спатрэбіцца.

## БНФ + КДБ = АКК

Як паведамлялася, пад дахам мінскага Дома літаратара прадстаўнікі некалькіх дзесяткаў палітычных арганізацый падпісалі пагадненне "Аб сумесных дзеяннях пры ўзнікненні пагрозы суверэнітэту Рэспублікі Беларусь". Пад гэтым дакументам подпісы С.Шушкевіча, З.Пазняка, П.Чауса, П.Краўчанкі, Э.Шыркоўскага. Такім чынам, быў створаны Антыкрызісны камітэт, які ўзначаліў Прэм'ер-міністр РБ В.Кебіч. З самых уплывовых арганізацый у АКК не ўвайшлі беларуская праваслаўная царква і беларуская ваенная акруга. Узнікае пытанне, чаму ў арганізацыю, якая прызначана абараняць інтарэсы Беларусі, не ўвайшлі ні беларуская епархія, ні вайскоўцы? Ці не таму, што беларускае праваслаўе спрадвеку было скіравана ў бок "старэйшага брата", на ўсход, а кіраўнікі БВА і да гэтага часу не могуць уцяміць, што іхні штаб знаходзіцца на зямлі суверэннай дзяржавы?

## ТВАРАМ ДА ТВАРУ З АМЕРЫКАЙ

З 17 па 23 сакавіка гэтага года міністр замежных спраў П.Краўчанка наведаў з рабочым візітам ЗША.

У гутарцы П.Краўчанкі з Прэзідэнтам ЗША Дж.Бушам былі закранутыя пытанні афармлення міждзяржаўных адносін паміж РБ і ЗША, падрыхтоўкі візіту кіраўніцтва Беларусі ў ЗША, прадастаўлення рэспубліцы рэжыму найбольшага спрыяння і інш. Прэзідэнту ЗША быў перададзены ліст Старшыні СМ РБ В.Кебіча, у якім зроблены запэўніванні аб павазе правоў чалавека пакідаць краіну і вяртацца ў яе.

Пад час сустрэчы П.Краўчанкі з дзяржсакратаром ЗША Дж.Бейкерам апошняму была ўручана нота аб прызнанні часовага паверанага ў справах РБ у ЗША. Ім стаў С.Мартынаў, які раней працаваў намеснікам пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры ААН. Міністр сустрэўся таксама з Генеральным сакратаром ААН Б.Галі, прадстаўнікамі вайсковых, юрыдычных, дабрачынных колаў.

*Пытанні ў нумар*

### Прывід беспрацоўя

"Адкажыце, калі ласка, колькі зараз беспрацоўных на Беларусі?

Л.Крыўчэня, Брэст".

Як паведамляе служба занятасці РБ, зараз у рэспубліцы афіцыйна прызнаны беспрацоўнымі 3444 чалавекі. Толькі за першыя месяцы 1992 года статус беспрацоўнага атрымалі 2285 чалавек. Матэрыяльнай дапамогай карыстаюцца 1615 чалавек.

### Колькі каштуе купон?

"Цікава, колькі грошай патраціла дзяржава на выраб аднаразовых купонаў?

Н.Ігнаценка, Магілёў".

Як паведамілі кампетэнтныя органы, надрукаваць адзін аркуш купонаў каштуе прыблізна паўтара рублі. Усяго ж на гэтую справу з кішэняў падаткаплацельшчыкаў выцягнута 400 мільёнаў рублёў. Гэта прыкладна па 40 рублёў на кожнага жыхара Беларусі. Толькі вось у хуткім часе гэтыя рознакаляровыя паперкі будуць здадзены ў макулатуру — ім на змену прыйдзе шматразовы купон.

## "КАВАЛАЧАК ПАМЯЦІ"



21 сакавіка ў Доме работнікаў мастацтва (пр.Ф.Скарыны, 26) напалову ўрачыста, напалову па-хатняму адбылося адкрыццё чарговай персанальнай выставы мастака Сяргея Балянка. Назва гэтай выставы — "Кавалачак памяці" — традыцыйна паўтарае назву аднаго з новых афортаў. Яго, дарэчы, вы бачыце на нашай маленькай рэпрадукцыі. А яшчэ яна, гэтая назва, надзвычай трапна адлюстроўвае, на мой погляд, сутнасць вялікай часткі творчасці мастака...

Аматары графікі, упэўнены, добра знаёмы з творчасцю Сяргея Балянка. Тым цікавей ім будзе ўбачыць шматлікія новыя творы, адзначаныя лічбамі 1991 і нават 1992. Бо апошні раз глядач і творы сустракаліся ў той жа выставачнай зале ў 1990 годзе. "Слухай, давай пройдземся!" — заклікалі тады афішы. На гэты раз, на жаль, нагляднай агітацыі няма, і можа так адбыцца, што нават зацікаўленыя людзі не трапяць на выставу. А між тым працаваць яна будзе да 10 красавіка.

Тым, хто пакуль не знаёмы з творчасцю Сяргея Балянка, я тым больш раю пабываць у Доме работнікаў мастацтва, таму што вельмі самабытны мастак сваім ні на каго не падобным почыркам, асабістым падыходам да любой тэмы, не паўтараючыся ні ў адным са сваіх афортаў, можа зацікавіць любога. Тым больш, хутчэй за ўсё, вы ведаеце работы Балянка ў жанры кніжнай графікі: менавіта ён афармляў папулярныя фантастычныя кнігі "Прадаецца планета", "Крылы ночы", зборнік твораў Курта Ванегута (выдавецтва "Універсітэцкае"), а таксама большасць кніг выдавецтва "Эрыдан", у тым ліку знакаміты збор твораў Дж.Х.Чэйза. Дарэчы, у тым жа выдавецтве выйшаў каталог твораў мастака.

Для тых, хто пойдзе, убачыць, зацікавіцца, у адным з бліжэйшых нумароў "ЧЗ" — сустрэча з Сяргеем Балянкам і яго выдатнымі творамі.

Яўген Пучкоў.

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Айцец Ян МАТУСЕВІЧ,*
*святар беларускай грэка-каталіцкай царквы:*

– Мяне вельмі непакоіць агульная бездухоўнасць, безыдэйнасць. Найбольш яскрава гэтая з'ява адлюстроўваецца на моладзі. Яна не бачыць шляху, не ведае, куды ісці. Можа, менавіта таму развіліся розныя секты, акультныя навукі... Трэба адрозніваць добрае, светлае ад благога!

Як святар лічу, што ўсё добрае ідзе ад Бога, усё дрэннае – ад сіл зла. Мэта ж царквы – прывесці моладзь на шлях дабра, да добрых, высакародных учынкаў. Гэта павінна непакоіць кожнага, а не толькі святароў.

Вельмі цяжка, вельмі марудна ідзе адраджэнне нацыянальнай свядомасці. Сярод моладзі пануе нацыянальны нігілізм. Маўляў, якая розніца, на якой мове гаварыць? Дык як можа выжыць народ, моладзь якога не цікавяць гісторыя, карані, традыцыі гэтага народа?

*Уладзімір ГАНЧАРЫК,*
*старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі:*

– У агульным плане хвалюе нестабільнасць, пагаршэнне эканамічнай і сацыяльнай сітуацыі. Гэта датычыць і Беларусі, і іншых краін СНД. Палітычныя партыі не хочуць ісці на кампраміс, не хочуць шукаць згоды. Што датычыць стварэння антыкрызіснага камітэта, дык яго мэта супрацьстаяць знешняй пагрозе ў адносінах да Рэспублікі Беларусь. На самай жа справе прычыны крызісу ляжаць значна глыбей.

Больш за ўсё непакоіць спыненне прадпрыемстваў, страта людзьмі працы, скарачэнне працоўных месцаў. У сувязі з гэтым асноўная задача зараз – даць людзям магчымасць працаваць і адпаведна зарабляць. Для гэтага трэба даць калектывам магчымасць самім распараджацца сваімі сродкамі.

Пакуль нашы прафсаюзы не прадугледжваюць актаў грамадскага непадпарадкавання. Але гэтае непасрэдна залежыць ад ходу сесіі Вярхоўнага Савета РБ, ад таго, якія пастановы прыме гэтая сесія – аб прафсаюзах, аб працоўных калектывах – і ці не будуць гэтыя пастановы насіць антырабочага характару.

*Валерый ІВАНОЎ,*
*кампазітар:*

– Што хвалюе? Адсутнасць прафесіяналізму. Скрозь пануе пячорнае дылетанцтва. Што яшчэ? Я хацеў набыць сабе гумавую лодку. Каб дзецям сваім радасць зрабіць, самі ведаеце – калі дзеці прыроду зразумеюць, калі ўбачаць яе прыгажосць, калі хоць раз сустрэнуць світанак дзе-небудзь на рэчцы, на возеры – душу сваю мацнейшай зробяць, больш адчувальнай... Дык вось раней я за адну песню мог дзве такія лодкі набыць. Цяпер жа нават за балет ці за канцэрт для аркестра ніводнай не набудзеш. Цяпер немагчыма нават у думках праплысці па той рэчцы... Не магу я такога зразумець. Раней я зарабляў грошы за тое, што людзям хоць крышачку падабалася, за тое, чаму яны радаваліся. І быў шчаслівы. Што ж зараз? Мастацтва нікому не патрэбнае. Дабрачыннасць, бескарыслівасць лічаць забавай для дурняў. Я ж у сабе гэтае буду ўтрымліваць і ніякая сіла з мяне гэтага не выцягне. Нікога не хачу абвінавачваць, бо самае простае – шукаць вінаватага, што мы і рабілі апошнія сем гадоў. А потым зробяць вінаватымі нас... Вось таму я і нікога не хачу вінаваціць. Які ж сэнс зараз працаваць, ствараць? Ніякага. Той, хто працуе на смеццеўборачнай машыне, зарабляе больш за кампазітара. А ці можа ён напісаць песню?..

А на каго спадзяюся? Толькі на сябе.



* 20-я.


* 60-я.

Нягледзячы на сваю рахманасць і лагоднасць (а можа дзякуючы менавіта гэтым якасцям), беларусы заўжды былі працавітай нацыяй. Уласнікамі, людзьмі, што са стараннасцю і клапатлівасцю дбалі аб прыватнай гаспадарцы, сваёй справе. І, нягледзячы на ўсе катаклізмы, змены і метамарфозы сацыяльна-эканамічнага ладу і культурна-палітычнага ўціску, яны такімі і застануцца ў сваёй большасці. Сённяшні час вельмі цяжкі ў гэтым сэнсе: людзям нанава даводзіцца будзіць у сабе пачуццё гаспадара, што столькі год было пад прыгнётам. Таму што толькі гаспадар можа вярнуць да жыцця змярцвелую эканоміку Беларусі. І як бы ні сур'ёзна выглядалі першыя калгаснікі на архіўных фота, як бы ні запэўнівала сваёю ўсмешкаю ардэнаноска, мы ўжо не верым у калгасны лад. У ім няма паратунку. І, магчыма, беспадстаўна вера ў тое, што фермерства стане панацэяй для гаспадаркі рэспублікі ўжо заўтра, але ў тым, што выратуе яе праз тры-пяць гадоў, я ўпэўнены. Прынамсі, гэта адзінае, на што могуць спадзявацца беларускія палі, якія перанеслі цяжар сямідзесяцігадовага эксперыменту.

Прыватнік, уласнік, гаспадар — да нас вяртаюцца гэтыя словы. Як яго абараніць, як яму дапамагчы? Трэба даведацца думку на гэты кошт спецыялістаў. Што мы і зробім. У сённяшнім нумары І.Мароз, дацэнт кафедры экалагічнага і сельскагаспадарчага права БДУ імя Леніна, разважае, як абараніць фермера. А ў наступным — Я.А.Друзік, кандыдат эканамічных навук, паспрабуе асэнсаваць двухгадовы шпацыр Польшчы па шляху прыватызацыі. Іх вопыт для нашай рэспублікі ўяўляецца найбольш карысным — як пойдзе Беларусь? Куды ўвогуле мы скіруем свой рух? Паразважаем, абмяркуем.

* 90-я?

*На сесію Вярхоўнага Савета Беларусі*

# Радок у закон,

## або Фермеру патрэбна прававая ахова

*Недасканаласць зямельнага заканадаўства ў нашай рэспубліцы на практыцы прыводзіць да таго, што зямлю селяніну можна даць, а можна і не даць, г.зн. рашэнне прынцыповага пытання аддаецца на водкуп мясцоваму кіраўніцтву. Пры гэтым характэрна, што рабіцца гэта можа са спасылкай на закон у абодвух выпадках. Праілюструю сваё сцвярджэнне на аналізе асобных артыкулаў існуючага сёння Кодэкса аб зямлі.*

У арт.67 Кодэкса аб зямлі гаворыцца, што членам калгасаў і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, пажадаўшым выйсці з іх складу і весці прыватную сялянскую гаспадарку, па рашэнню раённага Савета народных дэпутатаў з улікам неабходнасці стварэння роўных умоў гаспадарання прадастаўляюцца надзелы, якія канфіскуюцца з зямель узгаданых прадпрыемстваў. А ў 70 артыкуле, які вызначае парадак прадастаўлення зямлі для вядзення сялянскай гаспадаркі, запісана, што грамадзянам Рэспублікі Беларусь, якія не пералічаны ў арт.67 Кодэкса аб зямлі (г.зн. тым, хто не з'яўляецца членам калгасаў або іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў), зямельныя надзелы для прыватнага гаспадарання прадастаўляюцца са спецыяльнага фонду зямельнага запасу, які ўтвараецца з сельскагаспадарчых угоддзяў, выбыўшых з абароту або пераведзеных у менш каштоўныя землі: зямель ляснога фонду, не пакрытых лесам або занятых малакаштоўнымі ляснымі пародамі і прыгоднымі па глебавых і іншых умовах для выкарыстання ў якасці сельскагаспадарчых угоддзяў. Але ўсім вядома, што гэта за сельгасугоддзі, якія выбылі з абароту або заняты малакаштоўнымі ляснымі пародамі, – забалочаныя, зарослыя хмызняком землі, якія немагчыма прывесці ў добры стан, калі гаспадар не будзе ўзброены адпаведнай тэхнікай. Зразумела, што на такіх землях весці сялянскую гаспадарку пры сённяшніх умовах немагчыма.

Маючы такую прававую норму, тыя кіраўнікі гаспадарак і мясцовых органаў улады, якія на сваёй тэрыторыі не жадаюць мець фермераў, фактычна на законнай аснове блакіруюць стварэнне такіх гаспадарак. Адсюль вынікае неабходнасць адмены ўзгаданага артыкула, бо ён ставіць у вельмі нявыгаднае становішча тых грамадзян, якія маюць намер весці сялянскую гаспадарку, але не з'яўляюцца членамі калгаса або іншага сельгаспрадпрыемства. А такіх грамадзян становіцца ўсё больш.

Патрабуюць перагляду і некаторыя палажэнні пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 18 лютага 1991 г. "Аб правядзенні зямельных рэформ у рэспубліцы", якія не адпавядаюць сённяшняму дню. Гэта тычыцца перш за ўсё практыкі фарміравання спецыяльнага фонду зямельнага запасу мясцовых Саветаў народных дэпутатаў для забеспячэння зямельнымі надзеламі юрыдычных і фізічных асоб.

У пастанове гаварыцца, што гэты фонд таксама фарміруецца "за кошт нерацыянальнага выкарыстання ўгоддзяў, зямель, якія выкарыстоўваюцца не па мэтаваму прызначэнню або з парушэннем устаноўленых патрабаванняў, і за кошт сельгасугоддзяў, выбыўшых з абароту або пераведзеных у менш каштоўныя землі, зямель ляснога фонду, не пакрытых лесам або занятых малакаштоўнымі ляснымі пародамі і г.д.". Як бачым, гэты фонд прапанавана фарміраваць з зямель, якія фактычна не прыгодны для вядзення сельскай гаспадаркі, г.зн. сельгасугоддзяў, што з'яўляюцца кінутымі і не выкарыстоўваюцца, а калі і выкарыстоўваюцца, то з вельмі нізкай аддачай. Аб якасці зямель гэтага фонду можна меркаваць па такому факту. У Брэсцкай вобласці з усіх зямель узгаданага фонду толькі 19 працэнтаў складае ралля, астатняе– кінутыя землі.

Такім чынам, калі мы прызнаём роўнасць розных форм гаспадарання на зямлі (а гэта зацверджана ў Кодэксе аб зямлі), то нельга селяніна-індывідуала ставіць у горшае становішча. Ён павінен быць надзелены ўрадлівай зямлёй, як сказана ў законе – "кадастравая адзнака выдзяляемага зямельнага надзелу павінна быць, як правіла, на ўзроўні сярэдняй па гаспадарцы". Толькі неабходна выключыць з артыкула Закона словы "як правіла", таму што гэтая агаворка нядобрасумленнымі кіраўнікамі часцей за ўсё выкарыстоўваецца, каб абысці закон, не выканаць яго патрабаванні. Выдзяленне добрай зямлі для вядзення сялянскай гаспадаркі павінна стаць нормай закона, абавязковым патрабаваннем для кіраўнікоў на месцах. Хто прывёў гэтыя землі ў непрыгоднае становішча, той няхай іх і аднаўляе. А то атрымліваецца, што з аднаго боку мы за развіццё розных форм гаспадарання (у тым ліку і за развіццё фермерства), а з другога – на законнай аснове выдзяляем будучаму фермеру такія землі, на якіх весці гаспадарку практычна немагчыма. На такіх землях, хоць і з вялікімі цяжкасцямі, можна арганізаваць садаводства, агародніцтва, але не фермерства.

Трэба адзначыць, што ў апошні час назіраецца тэндэнцыя з боку кіраўнікоў гаспадарак размеркаваць зямлю ў калгасах паміж усімі калгаснікамі, зрабіць іх уладальнікамі або ўласнікамі зямлі, каб кожны меў свой зямельны надзел. Калі гэта ажыццёвіцца, то атрымаць зямлю фермеру будзе яшчэ цяжэй. А мэта тут адна – не дапусціць развіцця фермерства і захаваць непахіснасць калгасаў. Гэта акалічнасць мае прынцыповае значэнне пры абмеркаванні і прыняцці закона аб прыватнай уласнасці на зямлю.

Патрабуюць перагляду і ўдакладнення і іншыя артыкулы Кодэкса аб зямлі, асабліва тыя, у якіх ідзе гаворка аб землеўладанні грамадзян. Надуманымі, на мой погляд, з'яўляюцца прадугледжаныя ў арт.53 Кодэкса такія выразы, як "індывідуальнае садаводства", "індывідуальная жывёлагадоўля". Не вельмі дасканала сфармуляваны арт.37, што прадугледжвае пераход права ўладання і права карыстання зямельным надзелам разам з пераходам права ўласнасці на пабудову. Няма дакладнага размежавання ў кампетэнцыі Саветаў розных узроўняў па пытанню канфіскавання зямель. Гэтыя і іншыя артыкулы неабходна ўдакладніць пры ўнясенні змен у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб зямлі ў сувязі з прыняццем Закона аб прыватнай уласнасці на зямлю.

І.Мароз,
дацэнт кафедры
экалагічнага і сельскагаспадарчага права
юрыдычнага факультэта
БДУ імя У.І.Леніна.

## З БІРЖАЙ НА "ТЫ"

*"Сёння шмат спрачаюцца пра біржы. А што гэта, уласна кажучы, такое?*

**Т.Бараноўская, г.Мінск".**

Сёння галоўнай спецыялізацыяй усіх біржаў — універсальных і "галіновых" — з'яўляюцца тавары народнага спажывання.

Што ж уяўляе сабой таварная біржа? Любая таварная біржа мае два асноўныя накірункі дзейнасці: аптовы гандаль, з аднаго боку, і каціроўка цэн тавараў, гэта значыць, інфармацыйнае абслугоўванне — з другога. Сутнасць біржы — саюз прадпрымальнікаў і гандляроў, складзены ў мэтах стварэння спрыяльных умоў для камерцыйнай дзейнасці.

Асноўнымі рысамі, якія характарызуюць таварную біржу, з'яўляюцца:

— ажыццяўленне куплі і продажу не саміх тавараў, а кантрактаў на іх пастаўку;

— продаж кантрактаў на стандартызуемыя віды тавараў, якія могуць быць прададзены буйнымі партыямі па ўзорах або тэхнічнаму апісанню;

— рэгулярнасць таргоў, якая дае магчымасць сканцэнтраваць на біржы вялікую колькасць пакупнікоў і прадаўцоў і выяўляць базісныя рыначныя цэны;

— свабодныя купля і продаж кантрактаў, калі пакупнік вольны выбіраць прадаўца, а прадавец — пакупніка;

— дзеянне рынычных цэн, якія фарміруюцца пад уплывам рэальных суадносін попыту і прапановы;

— ажыццяўленне таргоў па адзіных біржавых правілах, дзеянне якіх арганізуе рынак;

— актыўны і непасрэдны ўдзел у гандлі біржавых пасрэднікаў (брокераў);

— наяўнасць тыпізацыі кантрактаў і мінімальных партый пастаўак, якія спрошчваюць вядзенне таргоў.

По ступені ўдзелу наведвальнікаў у біржавых таргах таварныя біржы дзеляцца на адкрытыя і закрытыя. У таргах на закрытых біржах могуць прымаць удзел толькі біржавыя пасрэднікі (брокеры), а на адкрытых — акрамя брокераў, таксама і наведвальнікі.

У адпаведнасці з характарам біржавых аперацый адрозніваюць таварныя біржы рэальнага тавару і ф'ючэрсныя. Продаж кантрактаў на біржах рэальнага тавару суправаджаецца, як правіла, далейшай пастаўкай тавараў. На ф'ючэрсных біржах ажыццяўляюцца ў асноўным спекулятыўныя здзелкі і страхаванне ад неспрыяльных змен цэн, якія не суправаджаюцца пастаўкай тавараў, а маюць сваім вынікам ліквідацыю кантрактаў і пералік паміж брокерамі на аснове розніцы ў цэнах. Большасць бірж, якія дзейнічаюць за мяжой у сучасны час, з'яўляюцца ф'ючэрснымі. На сённяшні дзень на Беларусі дзейнічае 27 бірж.

## Нашчадкі Гедыміна

*"Я чула, што ў князя Гедыміна было шмат жонак і амаль што тузін дзяцей ад іх. Ці так гэта? Калі так, раскажыце, калі ласка, як іх звалі і чым яны займаліся.*

**М.Закрэўская, вучаніца 10 класа, г. Віцебск".**

У Гедыміна было ўсяго дзве жонкі. А вось дзяцей сапраўды шмат. Чатырнаццаць — 7 сыноў і 7 дачок.

Ад першай жонкі, Евы, нарадзіліся: Яўнут — князь заслаўскі, Люнтвід — князь смаленскі, Нарымут — князь пінскі, Карыят — князь навагрудскі, Любарт — княжыў на Валыні.

Ад другой жонкі, Вольгі, нарадзіліся найбольш вядомыя сыны: Альгерд, які княжыў у Крэве, і Кейстут — князь трокскі.

Дочкі ж Гедыміна павыходзілі замуж за суседніх валадароў. Алдона выйшла за польскага караля Казіміра, Дакміла — за мазавецкага князя Ванька, Марыя — за мазавецкага князя Баляслава, другая Марыя — за цвярскога князя Дзмітрыя, Настасся — за маскоўскага князя Сімяона, Бірута — за князя Давыда Гарадзенскага. Сёмая дачка, імя якой невядома, была замужам за Юрыем, князем галіцкім.

Дадам, што Гедымін пражыў восемдзесят чатыры гады і памёр не ад старасці, а быў смяротна паранены стралой у бітве з крыжаносцамі.

## ШТО ТАКОЕ АБРАЗАННЕ?

*"Я збіраюся разам з бацькамі ехаць у Ізраіль, але мае сябры кажуць, што калі я не зраблю абразанне, мяне туды не пусцяць. Гэта, канешне, жарт, але хацелася б даведацца аб гісторыі гэтай старажытнай аперацыі.*

**Раман К., г.Магілёў".**

Абразанне з'яўляецца адным з самых распаўсюджаных відаў пластычных аперацый на палавым члене. Яно ўзнікла задоўга да Ражства Хрыстова. Сам Хрыстос і яго 12 апосталаў былі абразаныя. Такая аперацыя была шырока распаўсюджана ў старажытным Егіпце і вядома нават ацтэкам. Сёння абразанне робяць такія народы, як аўстралійскія абарыгены, бразільскія індзейцы такуна, абісінскія хрысціяне і, канешне, мусульмане і іудзеі. У Бібліі аб абразанні ўпершыню прыгадваецца ў Кнізе Быцця: "Абразайце крайнюю плоць вашу, і гэта будзе знакам запавету паміж мной і вамі". У старажытныя часы аперацыя рабілася з дапамогай вострага каменя. У Кнізе Зыход аб гэтым напісана: "Тады, узяўшы каменны нож, абрэзала крайнюю плоць сына свайго і, кінуўшы да ног яго, сказала, ты жаніх крыві ў мяне".

У яўрэяў для абразання выкарыстоўваецца стальны нож, а аперацыю робіць магель, рытуальны хірург, які займаецца выключна абразаннем. Ён свабодна аперыруе васьмігадовае дзіця, што могуць сабе дазволіць нямногія хірургі.

Гэта аперацыя дае відавочныя перавагі ў палавым жыцці, але наўрад ці яны, а не рэлігія, сталі прычынай яе.

## ЗА ПРАВЫ СЕКСМЕНШАСЦЯЎ

*"Чуў, што шмат рок-музыкаў падпісаліся пад зваротам да ўрада Расіі, дзе выступілі за адмену 121 артыкула КК РСФСР ч.1, які карае за "мужеложство". Ці праўда гэта?*

**Сяргей С., г. Брэст".**

Так, сапраўды, такі зварот быў складзены і акцыя па збору подпісаў распачата Уладзімірам Вясёлкіным (гурт "Аўкцыён"). "Мы ўпэўнены, што гэты артыкул супярэчыць гуманістычным прынцыпам, свабодзе волевыяўлення, праву выбару ўсялякага цывілізаванага чалавека планеты,— гаворыцца ў звароце.— ... Гэтым людзям (секс-меншансцям — А.К.) неабходна вярнуць права на свабоду, пазбавіць іх страху. Зразумейце, свет разнастайны, і ў гэтым ягоная сіла, і сексуальныя прыхільнасці таксама неаднатыпныя! Прэч дыскрымінацыю тых, хто не такі, як ты!!!"

Пад зваротам падпісаліся гурты: "Аўкцыён", "Брыгада С", "Стыль", "Місія Антыцыклон", "Нефармальнае аб'яднанне моладзі", "Не ждалі", "Камікадзэ", "Наце", частка музыкаў "ДДТ", "АВІА", "Наўцілус Пампіліус", "ЧайФ"; а таксама часопіс "Обозрение произведений андеграунда" (Кіеў), частка вінніцкага рокклуба, Агенцтва "СМАК", Андрэй Бурлака, Настасся Рахліна (удава Аляксандра Башлачова), Уладзімір Сікачоў, Лабараторыя Эксперыментальнага Мадэліравання, Міхаіл Жванецкі, Сяргей Крылоў, Уладзімір Салтыкоў, Міхаіл Барзыкін (Тэлевізар), супрацоўнікі ВІДа, ЭРІА.

## Як жыццё, "Мроя"?

*"Цікава было пачуць пра "ўлісаўскія" навіны. А што адбываецца з "Мрояй"? Ходзяць чуткі, што гурт развітаўся з Венем.*

**Алесь КОЗІК, г.Наваполацк".**

Сапраўды, пра "Мрою" ходзіць нямала чутак. І хоць падставы многія з іх маюць, але рэчаіснасці адпавядаюць не ўсе. Скажам, убачыўшы музыкаў гурта ў "Новым небе", сёй-той зрабіў выснову, што "Мроя" распалася. Аднак, зусім наадварот: проста ўдвая павялічылася творчая актыўнасць музыкаў. Дый хіба не прыемна пасля цяжкіх рокавых рытмаў акунуцца ў лагодныя хвалі бардаўскай песні?



Апошнім часам усё часцей пачала з'яўляцца "Мроя" на тэлебачанні: ейныя відэазапісы паказвалі сёлета ў студзені-лютым "Весьціца", "Крок" і іншыя праграмы.

Тое, што менш стала канцэртаў, тлумачыцца тым, бадай, што гурт цяпер актывізаваў студыйную працу — запісвае на Беларускім радыё шэраг новых кампазіцый, а старыя (у тым ліку і з кружэлкі "28-я зорка") ва ўсю гучаць у радыёвыпусках з Менска, Варшавы, Мюнхена, Беластока.

Не ідзе пакуль гаворка і пра развітанне з гітарыстам Венедыктам Коневым-Петушковічам. Ён працягвае працаваць разам з Лявонам Вольскім (вакал, клавішныя), Юрасём Ляўковым (бас-гітара), Алегам Дземідовічам (бубны).

**Адказы рыхтавалі:**
**З. Лукашук**
**М. Багадзяж**
**А. Краўчанка**
**В. Мартыненка**

ФАШЫЗМ УЧОРА...

# ЧУБАТЫЯ ВЯЗНІ

## Дагэтуль невядомы лёс ахвяр фашызму



*Чытач! Углядзься ўважліва ў гэтыя здымкі. Гэта страшна! І гэта не камуфляж, а святая праўда. А зняты гэтыя людзі і падзеі ваеннымі фотакарэспандэнтамі 19 сакавіка 1944 года, у дзень вызвалення Азарыцкага лагера смерці, які размяшчаўся на тэрыторыі цяперашняга Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці.*

Углядзься ўважліва ў гэтую дзяўчынку, у яе адзенне, у яе вочы, у якіх застыла нямое пытанне:"Чаму мяне загналі злыя людзі ў гэты праклятага лагер смерці? Што я ім зрабіла дрэннага?" А ледзь улоўная ўсмешка на твары гаворыць:"І як добра, што я дажыла да вызвалення. Цяпер я буду жыць".

Гэта Кур'ян Вера, 6 гадоў, з вёскі Падветка Любанскага сельсавета Кастрычніцкага раёна. Яна, як і тысячы іншых хлопчыкаў і дзяўчынак, уцалела, выйшла з-за калючага дроту, засталася жыць. Падрабязна лёс яе пакуль мне невядомы, але яна цяпер жыве ў Бабруйску.

Страшную карціну намалявала ў сваім лісце Соф'я Уладзіміраўна Удругава, член савета ветэранаў 65-й арміі, былы ваенурач, жыхарка Масквы:"Трупы памёршых ад сыпнога тыфу, холаду і голаду валяліся ў канцлагеры на зямлі. Я гэта бачыла сваімі вачыма. Адну з першых машын з дзецьмі я суправаджала ў палявы шпіталь, і ўсю дарогу ў мяне ліліся слёзы, хоць у вайну я вельмі рэдка плакала. Памятаю абмарожаную дзяўчынку гадоў пяці. Пасля чула ад доктара, які ампутаваў ёй абмарожаныя ногі, што, калі прачнулася ад наркозу, яна спытала:"Доктар, а ножкі ў мяне яшчэ вырастуць?" Медперсанал не вытрымаў — усе плакалі".



А колькі такіх дзетак засталіся там, за калючым дротам трох фашысцкіх канцлагераў пад агульнай назвай Азарыцкі канцлагер? А колькі іх ляжыць у забытых брацкіх, агульных магілах паблізу населеных пунктаў Калінкавіцкага, Светлагорскага, Рэчыцкага раёнаў, дзе размяшчаліся ваенна-палявыя шпіталі 65-й арміі, у якіх лячылі нашыя ваенурачы хворых, абмарожаных, змардаваных ад голаду і холаду дзяцей і дарослых, былых вязняў гэтага страшнага лагера смерці? Страшны гэта быў канцлагер, сапраўднае марозна-тыфознае пекла. І супрацьзаконны і антыгуманны, бо фашысты заразілі тыфам мірнае насельніцтва, пазганялі хворых людзей за калючы дрот і стварылі сапраўдны рассаднік эпідэміі з мэтай заразіць наступаючыя часці Чырвонай Арміі. Для фашыстаў усе метады былі добрымі. На жаль, іх чалавеканенавісніцкі разлік апраўдаўся. Па ўспамінах камандуючага 65-й арміяй І.П.Батава, 19-ы стралковы корпус генерала Самарскага быў тыфозным на 40—50 працэнтаў і таму адведзены з перадавой у тыл.

Доўгі час лічылася, што вытанчаныя здзекі фашыстаў з мірнага насельніцтва абмяжоўваліся калючым плотам канцлагераў у наваколлі Азарычаў. Але параўнальна нядаўна сталі вядомы факты злачынстваў гітлераўцаў далёка за межамі гэтага канцлагера.

На мае раней надрукаваныя ў "Знамени юности" артыкулы адклікнуўся жыхар горада Магілёва Кушняроў Міхаіл Аляксандравіч, падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы, былы малалетні вязень канцлагера Азарычы.

— Я з'яўляюся,— піша Кушняроў,— малалетнім вязнем канцлагера Азарычы і перажыў усе жахі той страшнай трагедыі. Выжыў дзякуючы добрым людзям, але хваробы суправаджаюць мяне ўсё маё жыццё. Я адзін з тых, хто быў спецыяльна заражаны з дапамогай уколаў сыпным тыфам і змешчаны ў адну са школ горада Бабруйска. Прывезлі нас з канцлагера Азарычы (некалькі дзесяткаў хлопчыкаў 12—14 гадоў). А засталося ў жывых на той перыяд да 10 чалавек. Памёршых хавалі каля школы ў яму. Гэты факт ведалі зусім нямногія, а з тых, хто застаўся жыць, магчыма, адзін я. Я хацеў бы прыняць пасільны ўдзел ва ўвекавечанні ахвяр гэтай страшнай трагедыі, асабліва дзяцей.

З наступных лістоў Міхаіла Аляксандравіча стала вядома, што гэту групку хлопчыкаў фашысцкія выракі змясцілі ў школе № 3 горада Бабруйска, дзе знаходзіўся нямецкі шпіталь. У здаровых дзяцей бралі кроў для нямецкіх раненых, а потым уводзілі ўколамі тыфозную вакцыну, і нямецкія дактары вялі назіранні, як паміраюць людзі ад тыфу. З чым гэта можна параўнаць?

А выратавала Кушнярова жанчына, якая даглядала дзяцей. Даведаўшыся аб тым, што ў Кушнярова ў Бабруйску жыве родны дзядуля, яна толькі па назве вуліцы і па імені дзядулі знайшла яго. Дзядуля за некалькі бутэлек самагону выкупіў у немцаў, якія ахоўвалі шпіталь, свайго ўнука.

А астатнія хлопчыкі памерлі, і астанкі іх спачываюць дзесьці ў двары школы № 3. І няма на тым месцы абеліска, а сучасныя іх равеснікі, нічога не ведаючы пра гэтую трагедыю, весела бегаюць, магчыма, па іх касцях.

19 сакавіка 1944 года вызваленне прыйшло для ўсіх вязняў Азарыцкага канцлагера. Ноччу нямецкія жандары пакінулі лагер, а раніцай да лагера падышлі нашы разведчыкі. Але лагер вакол быў замініраваны. Сапёры размініравалі падыход да лагера — і праз некаторы час па сцежцы жыцця пацягнуўся ў напрамку Азарычаў суцэльны ручай чалавечых постацяў у рыззі, з клункамі, з дзецьмі на руках і на спіне. Гэта было жудаснае відовішча.

Аднак на гэтым трагедыя былых вязняў не скончылася. Людзей пачалі адвозіць у тыл дзеючай арміі і размяркоўваць па населеных пунктах. Было многа хворых. 25 палявых шпіталяў 65-й арміі вяло барацьбу з тыфам. Ім дапамагалі шпіталі суседніх 48-й і 50-й армій. Змучаныя, знясіленыя, хворыя вязні паміралі дзесяткамі ў шпіталях. Іх хавалі побач з магільнымі агароджамі, у бліжэйшых лясах. Цяпер гэтыя масавыя захаванні, у якіх спачываюць сотні, тысячы былых вязняў, зараслі травой, хмызняком і аказаліся забытымі богам і людзьмі. А чыноўнікі мясцовай улады не спяшаюцца



ўвекавечыць памяць мірных грамадзян і хоць бы паставіць помнікі на месцах масавых пахаванняў.

Азарычы — гэта трагедыя ўсяго Усходняга Палесся. Толькі зараз выяўляюцца многія факты, звязаныя з гэтым лагерам. Напрыклад, у архівах знаходзяцца звесткі, што ў ім былі мірныя грамадзяне са Смаленскай, Бранскай, Тульскай абласцей. Таму было б разумна і высакародна стварыць тут мемарыяльны комплекс — Беларускі Асвенцім з усімі лагернымі атрыбутамі.

І хоць з таго часу мінула 48 гадоў (хутка будзе паўстагоддзя), але мы, яшчэ жывыя былыя малалетнія вязні канцлагера Азарычы, не можам забыць нашы пакуты ў дзяцінстве, не можам дараваць нашым катам іх страшныя злачынствы на нашай зямлі, здзекі з нашага народа. Пра гэта кожны дзень нам напамінаюць шматлікія хваробы, якія ўзніклі ў выніку фізічных узрушэнняў у дзяцінстве, кожны год пакідаюць нас браты і сёстры па няшчасцю. Нас трывожыць і непакоіць абыякавасць і раўнадушша да забытых масавых пахаванняў былых вязняў.

Рыгор Галавачэнка,
былы малалетні вязень
канцлагера ў Азарычах,
настаўнік сярэдняй школы № 117
г.Мінска.

... І СЁННЯ

# ВОЛЯ І РОЗУМ

## Псіхатронная зброя: міф ці рэальнасць?

*Ужо некалькі стагоддзяў стваральнікі зброі ў розных краінах імкнуцца адшукаць такія метады ўздзеяння на чалавека і навакольны свет, якія далі б магчымасць з найменшымі стратамі заваёўваць матэрыяльныя каштоўнасці. Газавая, вадародная, атамная, нейтронная зброя ўжо прыдумана. Што далей? Міжнародны саюз барацьбы за правы чалавека сцвярджае, што на працягу апошніх дзесяцігоддзяў спецслужбамі розных краін вядзецца стварэнне прынцыпова новай зброі — псіхатроннай.*

Псіхатроніка — гэта экстрасенсорнае (тэлепатычнае) уздзеянне біяполем на мозг чалавека. Сёння не вядома, у чыю галаву ўпершыню прыйшла думка аб выкарыстанні тэхнічных сродкаў для ўплыву на чалавека. Аднак эксперыменты ў галіне біяполя вяліся яшчэ ў гітлераўскай Германіі. Цяжка сказаць, наколькі далёка прасунуліся нямецкія вучоныя на шляху стварэння псіхатроннай зброі. Аднак можна здагадацца, што пасля паражэння фашызму матэрыялы эксперыментаў трапілі ў рукі сталінскага НКУС. Першыя звесткі аб псіхатроннай зброі пасля вайны ўзніклі на Захадзе. Яшчэ ў 60-я гады італьянскі часопіс "Панарама" надрукаваў артыкул "Аддай свой мозг", у якім сцвярджалася, што на перадавыя пазіцыі вайны за кантроль над чалавечым мозгам выйшлі Злучаныя Штаты і Савецкі Саюз. Ужо тады вялася гаворка пра ўстанаўленне не толькі частковага, а наваг поўнага кантролю над мозгам. Адным з тэарэтыкаў псіхічных метадаў уздзеяння на чалавека быў канадскі прафесар Эвін Камерун, які яшчэ ў 1953—54 гадах распрацаваў спецыяльную праграму ў гэтай галіне. Прыкладна ў той жа час аналагічныя эксперыменты праводзіліся і ў Амерыцы, прычым часам легальна. Вось адзін з прыёмаў уздзеяння на падсвядомасць чалавека: у пракатныя ролікі кінематографа, якія прапускалі 24 кадры ў секунду, манціравалі кадр з рэкламай кока-колы. Нармальнае чалавечае вока гэтага кадра не заўважала, аднак падкорка галаўнога мозгу спрацоўвала, што прывяло да росту ўжывання гэтага напітку аж на 58 працэнтаў.

Крыху пазней, у 70-я гады, разразіўся скандал, звязаны з псіхіятрычнай клінікай у Манрэалі. Амерыканская газета "Нью-Йорк Таймс" публічна ўскрыла тайныя сувязі ЦРУ з гэтай клінікай і надрукавала матэрыялы аб варварскіх эксперыментах над яе пацыентамі. Па сутнасці, з чалавека імкнуліся зрабіць запраграміраванага робата, які б падпарадкоўваўся ўсім камандам, перададзеным у ягоны мозг. Па меры таго, як грамадскія колы заходніх краін высвятлялі ўсё новыя факты прымянення псіхатроннай зброі, там ствараліся камітэты і цэнтры абароны асобы, якія былі аснашчаны спецыяльнай апаратурай, што дазваляла рэгістраваць любое ўздзеянне на чалавека звонку. У выпадках выяўлення псіхатроннага ўплыву на чалавека грамадскасць дабівалася выплаты штрафу. Так, у ЗША было выплачана паўтара мільёна даляраў, у Канадзе — 700 тысяч і г.д.

Цяжка ўявіць, што Савецкі Саюз, які заўсёды прымаў самы непасрэдны ўдзел у гонцы ўзбраенняў, застаўся ў баку ад эксперыментаў па стварэнню такой зручнай і бяскроўнай зброі, як псіхатронная. Яшчэ напачатку 80-х гадоў "Літаратурная газета" ўсчала ўпершыню ў нашай краіне гаворку на гэтую тэму. Аўтар матэрыялу "Выкрадальнікі розуму" В.Сіманаў расказаў пра грандыёзныя эксперыменты амерыканскіх вучоных, якія маглі кіраваць сотнямі людзей з дапамогай невядомых навуцы метадаў, прычым, на вялікіх адлегласцях. Аднак тэма гэтая была адразу ж забаронена, а журналісту папросту заткнулі рот. Толькі цяпер, пасля распаду ўсёмагутнай партыйна-гэбэшнай машыны, становяцца вядомымі факты, якія так ці інакш пацвярджаюць, што і ў стварэнні псіхатроннай зброі былы СССР не губляў лідэрства. Напрыклад, 24 верасня 1990 года Старшыня КДБ СССР Кручкоў і дырэктар ЦРУ Уайнбергер падпісалі дакумент за нумарам 174-90/16: "Пагадненне аб сумесным правядзенні даследаванняў у галіне псіхатронікі". Тады ж адбыўся візіт ваенных з Пентагона ў навукова-даследчы інстытут клінічнай і эксперыментальнай медыцыны Савецкай акадэміі навук. А крыху раней, у 1987 годзе, у саюзны Саўмін кіраўнік цэнтра касмічнага зандзіравання генерал Ханцэвераў перадаў пакет дакументаў пад назвай "Аб неабходнасці выкарыстання метадаў біяэнергетыкі ў інтарэсах народнай гаспадаркі і абароны краіны". У ім, у прыватнасці, ішла гаворка аб "распрацоўцы метадаў і макетаў сродкаў дыстанцыйнага кіравання псіхафізічным і фізічным станам чалавека, уплыву на механізм прыняцця рашэнняў". Быў нават вызначаны канкрэтны тэрмін выканання гэтага пункта— 4 гады. Паводле сведчанняў супрацоўніка навукова-даследчага комплексу цэнтра "Энеатэхніка" Уладзіміра Шчапілава, заказчыкам даследавання кіравання свядомасцю чалавека ў СССР выступалі Міністэрства абароны, ЦК і КДБ. "Замбіраванне", — піша У.Шчапілаў у "Незалежнай газеце", — уяўляе сабой вельмі складаную працэдуру, якая можа быць праведзена толькі з асобна ўзятым чалавекам у прамым кантакце з ім... Аднак, калі раней у выніку жорсткага праграміравання фактычна атрымліваліся біяробаты, мала падобныя на нармальнага чалавека, то сёння "зомбі" часта можа выявіць толькі спецыяліст...". А вось меркаванні на гэты конт вядомага вучонага — акадэміка В.Казначэева: "Мы на працягу некалькіх гадоў праводзім эксперыменты па экстрасенсорнай камунікацыі паміж дзесяццю гарадамі ў розных кутках Савецкага Саюза. Гэта вельмі маштабныя эксперыменты" (газета "За рубежом"). З іншых інтэрв'ю Казначэева: "Можна з адлегласці ў 1000 кіламетраў адным намаганнем розуму пашкодзіць сістэму інфарматыкі цэлай краіны, паралізаваць дзейнасць камп'ютэраў... Можна паралізаваць волю і розум іншых людзей, паставіць іх у становішча паслухмяных рабоў. Можна зрабіць усё насельніцтва таго ці іншага раёна абсалютна пасіўным... Псіхічны ўплыў здольны затрымаць развіццё дзяцей, ператварыць іх у дэбілаў, якія будуць паслухмяна выконваць усё, што ім загадаюць...". Шмат шуму нарабіла мінулагодняя публікацыя "Камсамольскай праўды", у якой кіраўнік цэнтра асацыяцыі тэхналагаў-машынабудаўнікоў краіны Віктар Сядлецкі сцвярджаў, што ў Кіеве пачата серыйная вытворчасць псіхатронных біягенератараў, а таксама іх выпрабаванне. Пра тое, што тэрыторыя былога СССР у апошнія гады стала плацдармам псіхатроннага "замбіравання", неаднаразова папярэджваў і доктар філасофскіх навук дацэнт МПДУ Тодар Дзічаў. У апошнія гады ў нашай краіне створаны Камітэт абароны правоў чалавека, які таксама займаецца гэтай праблемай. Паводле звестак камітэта, на тэрыторыі былых саюзных рэспублік зарэгістраваны сотні ахвяр псіхатроннай зброі. Аднак усе спробы прадстаўнікоў камітэта і журналістаў выйсці на кантакт з навукоўцамі, высветліць што-небудзь у супрацоўнікаў спецслужбаў і вайскоўцаў не далі вынікаў. Былы генерал КДБ Алег Калугін, вядомы сваімі сенсацыйнымі прызнаннямі, дачыненне савецкіх спецслужбаў да гэтай праблемы неаднаразова абвяргаў, удакладняючы, што хутчэй за ўсё гэта справа ваенных. А калі ў мінулым годзе разыграўся скандал у Зеленаградскім гарсавеце, звязаны з прымяненнем да некаторых дэпутатаў так званага "дыстанцыйнага тэрору" з боку КДБ, тагачасны намеснік начальніка прэс-службы абласнога Упраўлення КДБ Андрэй Олігаў адмовіўся абвяргаць ці пацвярджаць словы зеленаградцаў.

Так ці інакш сёння ўжо ніхто не сумняваецца ў існаванні новага жудаснага і нябачнага віду зброі — псіхатроннага. Адзінае выйсце ў такіх умовах, лічыць міжнародная канферэнцыя па абароне правоў чалавека, якая адбылася ў Маскве ў мінулым годзе, гэта "круглы стол" па праблеме псіхатроннай зброі з удзелам усіх краін. Прычым склікаць яго трэба як мага хутчэй. Пакуль усе мы не ператварыліся ў паслухмяных дэбілаў, падуладных чыёйсьці пачварнай фантазіі.



Падрыхтаваў П.Скарамуш.
Фота С.Брушко.




# БЕЛАРУСКІ КА

1/19. (сакавіка па ст.ст.) Дарь'я Вясення, свята вясны ў некаторых раёнах. *Серадапосце, Кросная серада — серада на чацвёртым тыдні Вялікага посту.

4/22. Сб. Васіль Сонечнік. ("Ледзяшы са стрэх здымалі").

5/23. Н. Арына. Ірыны.[1] "На Арыну сей капусту ў расадніках".

12/30. Н. Пачатак *Пахвальнага тыдня — тыдня перад Вербніцай ("Дзіка качка яйцом пахваліцца").

6/24. П. Камаедзіца, язычніцкае свята пакланення мядзведзю.

7/25. А. Благавешчанне, свята прылёту бусла. Гукалі вясну. Вадзілі "Стралу".

8/26. С. Благуста ("На Благусту сей капусту").

9/26. Ч. Матрона ("На Матрону шчупак хвастом лёд прабівае").

14/1. А. Прабуджэнне дамавіка ("Апрэль — нікаму не вер"). Мар'я. Мар'я прыходзіць па разводдзях.

16/3. Ч. Мікіта ("На Мікіту няма ні зімы, ні лета").

17/4. Пт. *Пахвальная пятніца — дзень на Пахвальным тыдні. Абрад мыцця хлебнай дзежкі.

18/5. Сб. *Пахвальная, Мезіна субота.

19/6. Н. *Вербніца — нядзеля перад Вялікаднем. Пачатак *Вербнага, Страснага, тыдня. Засеўкі. *Вялікдзень (каталіцкі).

20/7. П. *Чысты панядзелак — панядзелак Вербнага тыдня. Пачатак *Белага тыдня.

21/8. А. Руф. ("рушыць снягі").*Чысты аўторак.

22/9. С. *Дравяная страсць — серада на Белым тыдні.

23/10. Ч. Войцах ("Святы Вайцеху выпусціў жаўранка з меху").Юры ("Як настане юр'ева раса – не патрэбна коням аўса").*Дравесны, Чысты, Вялікі чацвер, Жыльнік ("Чысты чацвер ячмень засяваець"). Мылі хлебныя дзежкі.

24/11. Пт. Анціп – ахоўнік зубоў. *Красная, Велікодная пятніца — пятніца Вербнага тыдня.

25/12. Сб. Марк("Дождж на Марка — дык зямля як скварка"). *Красная, Вялікая субота, *Таўкушчы дзень – субота перад Вялікаднем.

26/13. Н. *Вялікдзень, Вялічка, Паска ("Святое Вялічка ды гуляць вяліць малым дзеткам з красным яечкам. Старым мужам — мужжываннейка, старым бабам — пагуканнейка, маладым малайцам — паляваннейка, маладым паненкам — пагуляннейка").

27/14. П. *Вялікі панядзелак — другі дзень Вялікадня. Валачобніцтва.

28/15. А. Пуд ("Пуд снег пудзіць"). *Вялікі аўторак — трэці дзень Вялікадня ("Першы дзень пірагі маюць, а сярэдні дзень пагуляюць, а паследні дзень выпраўляюць").

29/16. С. Пачатак *Праводнага, Мёртвага, Фаміна тыдня – серада пасля Вялікадня. *Людавы дзень. *Градавая серада. Абрады каля студні.

30/17. Ч. Зосім — ахоўнік пчол. Андрыянава ноч — час дзявочай варажбы. *Вялікадне Мёртвых, Наўская Паска — дзень памінання на могілках; чацвер на Велікодным тыдні.

* Зорачкай абазначаны каляндарныя дні, якія не маюць пастаяннага месца, а залежаць ад Вялікадня.

[1] Гэтак выдзелены святы і прысвяткі беларусаў-каталікоў.

Малюнак Алены Шлегель-Лавецкай.

# З ГІСТОРЫІ КАЛЕНДАРА

(Заканчэнне.)

Уніяцкі каляндар добра захоўваецца ў беларускай вуснай народнай творчасці. Ён адлюстраваны ў народных прыказках, паданнях, песнях. Больш таго, можна меркаваць, што уніяцкае асяроддзе з яго талерантнасцю, сувяззю з народам, роднай мовай магло творча і дзейсна спрыяць у XVI—XVII стагоддзях як з'яўленню новых вусных твораў, так і развіццю многіх жанраў фальклору. Асабліва гэта адносіцца да "каляндарных" жанраў: прыказак, павер'яў, паданняў, валачобных песень і іншых.

У Расіі яшчэ доўга працягваў існаваць юліянскі каляндар, які прадпісваў адзначаць Новы год вясною, затым — восенню. 20 снежня 1700 года выйшаў указ Пятра І аб святкаванні Новага года зімою: "...впредь льта счислять вь Приказахъ и во всякихъ дьлахъ и крьпостяхъ писать сь ныньщняго Генваря сь І числа оть Рождества Христова 1700 года..." "учинить нькоторыя украшения оть древь і вьтвей сосновых, елевыхъ и можжевелевыхъ". Думаецца, адгэтуль бярэ пачатак выкарыстанне елак у Расіі. На Беларусі ж пакланенне дрэвам існавала і раней. З заходніх краін, у прыватнасці з Германіі, былі запазычаны нашымі гарадамі, а недзе ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя пачалі шырэй выкарыстоўвацца на святкаванні Дзед Мароз і Снягурка. У беларускім вясковым побыце гэтыя персанажы замацаваліся лепш у савецкі перыяд, сталі фармальна папулярнымі побач са спрадвечнымі традыцыямі беларусаў.

Яшчэ да рэвалюцыі неаднаразова ставілася пытанне аб рэформе календара, бо ён не быў дастаткова дакладны, у параўнанні з астранамічным ён разыходзіўся на некалькі сутак. У 1918 годзе дэкрэтам Саўнаркома краіна перайшла на грыгарыянскі каляндар. Згодна з дэкрэтам, датаю, што ішла за 31 студзеня, у тым годзе стала не 1, а 14 лютага. Прысвяткі і святы народнага календара на Беларусі сярод праваслаўных замацаваліся па старому стылю, а сярод католікаў — па новаму. Таму афіцыйны грамадзянскі Новы год адзначаецца па новаму — 31 снежня, а на большай тэрыторыі Беларусі Каляды — з 7 па 19 снежня.

Першыя звесткі аб календары знаходзяцца ў "Астраміравым евангеліі" (1056—1057). У старажытнейшым помніку старaславянскай пісьменнасці згадваюцца, напрыклад, назвы беларускіх і ўкраінскіх месяцаў. Лічыцца, што першы беларускі каляндар выдадзены ў 1587 годзе, аб чым засведчылі віленскія календары 20-30-х гадоў нашага стагоддзя. Магчыма, маецца на ўвазе "Календарь римски новы", выпушчаны ў згаданым годзе Герасімам Сматрыцкім у Астрозе, ці што небудзь іншае. Але, як вядома, яшчэ ў 1522 годзе ў беларусаў існавала "Малая падарожная кніжка" — каляндар, "выложенный из греческого на русский язык доктором Франциском с Полоцка". У гэтым друкаваным усходнеславянскім царкоўна-астранамічным календары, разлічаным на 1523—1543 гады, побач з грыгарыянскім летазлічэннем дадзена і юліянскае. Змешчаны "Псалтыр", "Часаслоў", некалькі акафістаў і канонаў, "Шасцідневец", "Саборнік", куды ўвайшлі "Святцы" і "Пасхалія". У "Малой падарожнай кніжцы" славуты Скарына для сваіх землякоў на роднай беларускай мове тлумачыў асновы пазнання летазлічэння ("Месяц септоври зовемы вресень", "Месяц октоври рекомы листопадь...").

Новы этап у гісторыі беларускага народнага календара звязаны з падзвіжніцкай дзейнасцю фалькларыстаў і этнографаў А.Багдановіча, І.Бермана, Д.Булгакоўскага, У.Дабравольскага, М.Дзмітрыева, А.Дэмбавецкага, Я.Карскага, А.Кіркора, М.Косіч, Ю.Крачкоўскага, К.Машынскага, М.Нікіфароўскага, Ч.Пяткевіча, З.Радчанкі, Е.Раманава, М.Федароўскага, Я.Чачота, П.Шэйна, а таксама У.Паўлюкоўскага, П.Сахарава, А.Сержпутоўскага і інш. Яны сабралі багаты матэрыял, які адлюстроўвае шматграннае духоўнае жыццё беларускага народа ў прыказках, прыкметах, песнях, абрадах, паданнях, гульнях, святах.

Да рэвалюцыі беларускія календары з рознымі патрэбнымі звесткамі друкаваліся ў Варшаве, Кракаве, Маскве, Петраградзе, Бярэсці, Вільні, Гомелі, Гродне, Магілеве, Менску, Полацку, Супраслі і інш. Аднак сталую традыцыю іх выпуску, па сутнасці, сфарміравалі выдаўцы "Нашай нівы". Першы выйшаў на 1910 год у друкарні Марціна Кухты ў Вільні. Аўтары імкнуліся, каб гэтыя невялікія кніжачкі сталіся карыснымі і патрэбнымі асноўнаму чытачу — селяніну. Каляндар падаваўся па месяцах у трох раздзелах: праваслаўным, рымска-каталіцкім, грэка-каталіцкім (уніяцкім) і адпаведна на трох мовах: царкоўна-славянскай, польскай і беларускай. Ва уніяцкай частцы назвы свят і прысвяткаў траплялiся простамоўныя, у канцы змяшчаліся некаторыя прыказкі: Вялікдзень (Пасха), "Не я б'ю, вярба б'е, за тыдзень Вялікдзень"; Ражаство св. Івана Хрысціцеля (Рождество Иоанна Предтечи), "Святы Іван пчолы садзіць" і інш. Хаця і коратка, але быў прадстаўлены яўрэйскі каляндар, што сведчыла аб дэмакратычнасці і верацярпімасці ўкладальнікаў.

У календары змяшчаліся розныя цікавыя і карысныя матэрыялы — змены фаз Месяца, надвор'е, даты кірмашоў на Беларусі, парады накшталт: як на торфе зрабіць сенажаць, якая карысць ад пасеву траў, як пазнаць, які штучны гной патрэбен для нашай зямлі, як выбіраць добрага рабочага каня, як выбіраць карову, як адкрываць сельскагаспадарчую суполку, як варыць верашчаку, калі рубіць дрэвы на будоўлю, як даіць неспакойных кароў, як пазнаць, колькі гусаку гадоў, як звесці мох і лішайнікі на пладовых дрэвах, як гасіць пажар у коміне, якім зернем сеяць і шмат іншых парад, што не страцілі сваю вартасць і сёння. Акрамя таго, друкаваліся творы пісьменнікаў, фальклорныя матэрыялы, асвятляліся палітычныя і эканамічныя пытанні.

У 30-я гады нашага стагоддзя, сумна выдомыя тым, што ўсялякае імкненне да захавання нацыянальнай культуры разглядалася як праява буржуазнага нацыяналізму, друкаванне падобных календароў на тэрыторыі Савецкай Беларусі было спынена. Толькі з мэтай навуковага даследавання праводзілася некаторая работа, звязаная з каляндарна-абрадавай паэзіяй. Дарэчы, назвы народных свят пісаліся з малой літары, а той, хто пісаў загалоўнымі слова "Бог", аб'яўляўся "нацдэмам". Тагачасныя навуковыя працы скіроўваліся на пошук шкоднасці ў народных і царкоўных святах. Так, кніга маскоўскага аўтара Н.Р.Румянцава "Праваслаўныя святы, іх паходжанне і класавая сутнасць" (М., 1936) прысвячалася "разбору гадавога цыкла праваслаўных перажыткаў капіталістычнага і дакапіталістычнага мінулага ў свядомасці працоўных, якія яшчэ не вызваліліся ад рэлігійнага дурману..." Каментарыі тут непатрэбны.

Сталін загубіў у канцэнтрацыйных лагерах, якія прымяняліся з першых гадоў Савецкай улады, тысячы ні ў чым не вінаватых служыцеляў царквы, партыйных, савецкіх і навуковых работнікаў, звязаных з нацыянальнай культурай, якой была нанесена вялікая шкода. Царкоўныя каштоўнасці абрабаваны, святыя месцы спаганены... Палітыка ваяўнічага атэізму нанесла непапраўную шкоду нашай спадчыне, дэфармавала развіццё духоўнай культуры беларускага народа.

Як гэта адбілася на каляндарнай справе ў прыватнасці, можна паказаць на прыкладзе зместу "Беларускага сялянскага настольнага календара на 1928 год", што выйшаў пры менскай газеце "Беларуская вёска" (складзены А.Матусевічам). У ім прыведзены табліцы па месяцах і днях царкоўных свят і прысвяткаў, больш-менш вядомых ці адзначаемых народам, дзе кожнай даце адпавядаюць штучна і адвольна ўключаныя новыя "рэвалюцыйныя" святы. Напрыклад, у красавіку Калектыў, Улада,




ічка ды
ам. Ста-
м — па-
йка, ма-

я. Вала-

— трэці
ць, а ся-
нь вы-

ыдня –
радавая

час дзя-
кая Па-
цвер на

маюць

алікоў.

ецкай.



## РА

Сьцяг, Воля, Зорка, Краса, Страла, Сталь, Горан, Паэма, Бунтар, Адвага, Сьмена, Слава, Кветкі і т.п. Як вядома, святары раней давалі імёны нованароджаным па царкоўнаму календару. Магчыма, таму і прапаноўваўся гэты ўзноўлены "імяннік".

Савецкія календары сталі палітызаванымі, у якіх амаль адсутнічаў фальклор. Як у першыя дзесяцігоддзі Савецкай улады, так і пазней многія ваяўнічыя атэісты не размяжоўвалі "паганскія" (язычніцкія) святы — з імі вяла барацьбу царква — з царкоўнымі, што паралельна існавалі,— усе агулам аб'яўляліся "нацдэмаўскімі", "рэлігійнымі", "царкоўнымі", "антысавецкімі". Але рэальнасць жыцця паказала: уводзячы новае, нельга нішчыць карані старога — не прыжывецца; ідэалогія, пабудаваная па прынцыпу разбурыць старое "до основанья",— не жыццёвая.

Беларускі народны каляндар — адна з форм духоўнага жыцця нацыі, сістэма свят, прысвяткаў, абрадаў, гульняў, ігрышчаў, пэўных дзён забарон, што замацаваны ў быце і фальклоры беларусаў і з'яўляюцца арыенцірам пры выкананні сельскагаспадарчых работ і адпачынкаў у гадавым, сезонным, месяцавым цыклах. У ім выдзяляюцца чатыры пары года і адпаведна з імі — чатыры вялікія святы, вакол якіх групуюцца іншыя. У сваю чаргу асноўныя святы прыблізна накладваюцца на астранамічныя перыяды, звязаныя з сонцастаяннем ці раўнадзенствам. Увесь земляробчы каляндар трымаецца на такіх цыклах свят: Вялікдзень і іншыя веснавыя святы і прысвяткі, у тым ліку Гуканне вясны, Юр'е, Мікола; летам — Купалле, каля яго сёмушныя святы; восенню — Дзяды, Багач, Пакрова; зімой — Каляды. Народныя памінальныя абрады суправаджаюць усе чатыры цыклы каляндарнага года: зімою — Калядная Куцця, Масленічныя Дзяды; вясною — Радаўніца; летам — Сёмушныя Дзяды і восенню — Асяніны. У гэтым выразна праяўляецца культ продкаў.

У беларускі народны каляндар уключаны як язычніцкія, так і фалькларызаваныя хрысціянскія святы і прысвяткі, на якіх традыцыйна выконваліся песні, праводзіліся абрады, гульні, ігрышчы, з імі звязаны прыкметы, павер'і і прыказкі, а таксама тыдні і большыя прамежкі часу (напрыклад, пасты), што атрымалі назвы ў народзе. Такім чынам, сюды ўвайшла і значная частка народных свят, звязаных з "рухомымі" датамі календароў праваслаўнай і каталіцкай Пасхі. Часцей ужываецца найменне на беларускі лад, напрыклад, Мікола (Перанясенне мошчаў свяціцеля цудатворца Мікалая — 9 мая), Іван Веснавы (Апостал і евангеліст Іаан Багаслоў — 8 мая), Ганны (Зачацце праведнай Анны Прасвятой Багародзіцы — 9 снежня). Для некаторых характэрна выкарыстанне форм множнага ліку (Ганны, Кацярыны, Варвары, Парасkі).

Да язычніцкіх святкаванняў і абрадаў адносяцца Камаедзіца, ваджэнне і пахаванне "стралы", Ярылавіца, "жаніцьба коміна" і інш. У каляндар уключаецца вялікая група свят і прысвяткаў, якія ўяўляюць сабой з'яднанасць "паганскай" і хрысціянскай культур. Народная язычніцкая традыцыя была настолькі моцная, што царкве і касцёлу прыходзілася прыстасоўваць свой каляндар, каб пастунова выцесніць старажытныя абрады або трансфарміраваць іх у хрысціянскія. Таму цяпер побач са спрадвечнымі "паганскімі" святамі адзначаюцца чыста хрысціянскія, якія маюць як некаторае падабенства, так і адрозненне і існуюць незалежна ад іх рэлігійнага зместу (пачатак Каляд — Ражаство Госпада Бога і Спаса нашага Ісуса Хрыста; Валосы, Аўлас — Святы пакутнік Уласій, епіскап Севасційскі; Гуканне вясны, Аўдоцця Вясноўка — Прападобнапакутніца Яўдокія; Вялікдзень, Вялічка — Светлае Хрыстова Уваскрашэнне, Пасха і інш.).

Алесь Лозка.

# АБ НАЗВАХ ВУЛІЦ

*У Мінгарсавеце адбылося чарговае пасяджэнне камісіі па найменаванню і перайменаванню вуліц і плошчаў г.Мінска. На парадак дня былі вынесены пытанні аб перайменаванні вуліц Берсана, Валадарскага, Мяснікова, Свярдлова, Урыцкага і вуліцы Уручча.*

СПРЭЧКІ

Што датычыць першых пяці вуліц, то неабходнасць іх перайменавання, здаецца, ні для каго тлумачыць не трэба: мінчане не хочуць жыць на вуліцах, названых у гонар гэтых асоб.

Лягчэй усяго, канешне, проста абмяняць шыльды з аднымі імёнамі на шыльды з імёнамі іншымі. Можна выбраць тых, чые дзеянні праверaны часам і адносіны да якіх з боку беларусаў былі заўсёды адназначна станоўчымі. Гэта Усяслаў Чарадзей і Глеб Менскі, Рагвалод і яго дачка Рагнеда, Кірыла Тураўскі і Ефрасіння Полацкая. Менавіта такой была прапанова вядомага беларускага навукоўца А.Мальдзіса.

Але, трэба згадзіцца, што пры ўсёй прыцягальнасці гэтай канцэпцыі шлях замены адных імёнаў іншымі – самы лёгкі. Значна цяжэй паспрабаваць аднавіць старыя назвы вуліц, пра якія ішла гутарка на пасяджэнні. І.Чарняўскі, які рабіў даклад па першаму пытанню, даў своеасаблівую гістарычную даведку, з якой члены камісіі даведаліся, што, напрыклад, вуліца Урыцкага называлася раней Захар'еўскім завулкам, але назва гэтая з'явілася не раней чым у 20-я гады нашага стагоддзя і не мае яшчэ асаблівай гістарычнасці. З другога боку, вярнуць гэтую назву немэтазгодна, бо гэта ўжо даўно не завулак. Што ж было пачаткова на гэтым месцы? Так званая Раманаўская слабада. У яе межы ўваходзіла яшчэ некалькі вуліц. Але перайменаванне патрабуецца перш за ўсё вуліцы Урыцкага, таму І.Чарняўскі прапанаваў назваць менавіта гэтую вуліцу Раманаўскай слабадой, альбо Раманаслабодскай.

Вуліца Валадарскага ў мінулым стагоддзі была вуліцай Серпухоўскай, а Свярдлова – Каломенскай. Гэтыя назвы яны атрымалі з-за таго, што тут размяшчаліся аднайменныя вайсковыя часці. Натуральна, аб такіх назвах шкадаваць не даводзіцца. Прапанова наконт вуліцы Валадарскага была наступнай: на ёй знаходзіцца такі архітэктурны помнік як Мінскі турэмны замак. Ён быў пабудаваны на грошы мешчаніна Пішчалы. У мінулым стагоддзі добра памяталі гэта, і ў народзе турма называлася Пішчалаўскай. Магчыма, гэтую назву можна даць вуліцы, бо яна адпавядае ўсім прынцыпам, па якіх вырашана праводзіць перайменаванні ў Мінску. Наконт вуліцы Свярдлова: калі нельга сапраўды аднавіць гістарычную назву, то можна згадзіцца на тое, каб вуліца была названа імем гістарычнай асобы станоўчага плана.

Вуліца Берсана раней называлася Трубнай. Чаму? Невядома. Але гэта вельмі немілагучна. І вяртанне Трубнай у цэнтр горада, ды яшчэ з улікам таго, што на ёй знаходзіцца ўзнёслы Чырвоны касцёл, - мяжуе з абсурдам. Вуліца Мяснікова раней была Маскоўскай. Але з такой назвай у нас ужо ёсць вуліца.

Потым пачаліся спрэчкі паміж прыхільнікамі канцэпцыі А.Мальдзіса і тымі, хто, як В.Вячорка, выказваўся за тое, каб па прыкладу Захаду даваць нашым вуліцам назвы, не звязаныя з асабістымі імёнамі. Па-першае, як гаварылі апошнія, Мінск і так падобны ўжо ці то на калумбарый, ці то на энцыклапедычны даведнік са сваімі мемарыяльнымі дошкамі і шыльдамі з назвамі дзеячаў. Гэта не заўсёды этычна і зусім неэстэтычна. Па-другое, за мяжой ніколі не практыкавалі называць вуліцы і плошчы імёнамі гістарычных асоб. Ды і ў нас у мінулым гэтага не было. Па-трэцяе, гэтая канцэпцыя выглядае вельмі бязграматнай. У чалавека пытаюцца: "На якой вуліцы вы жывяце?". А ён адказвае: "На Пушкіна". Пытанне – у адным склоне, адказ – у другім. Назва павінна характарызаваць вуліцу, указваць на яе адметныя рысы. А ў нас гэтага не адбываецца.

Дарэчы, пры галасаванні пазіцыя большасці высветлілася так: па магчымасці, даваць альбо вяртаць вуліцы назву, не звязаную з імем уласным. Але ў выпадках, калі гэта немагчыма, – не адмаўляцца ад канцэпцыі ўвекавечання памяці аб асобе, да якой мы паспелі ўжо прывыкнуць.

Наконт жа вышэйназваных вуліц вырашылі так: вул.Урыцкага даць назву Раманаўская слабада ("за" – 9 членаў камісіі, "супраць" – 5), вул.Валадарскага – Пішчалаўская ("за" – 9, "супраць" – 5), вул.Свярдлова – імя В.Ластоўскага ("за" – 11, "супраць" – 2, "устрымаўся" – 1).

Па вуліцах Берсана і Мяснікова пытанне засталося адкрытым. Вырашана перанесці яго на адно з наступных пасяджэнняў, а за гэты час пагартаць старыя планы горада.

Вуліцу Уручча папрасілі перайменаваць жыхары таго раёна. Бо побач знаходзіцца вуліца Уручанская, і пастаянна адбываецца блытаніна. Зыходзячы з таго, што на месцы гэтай вуліцы раней знаходзілася вёска Старына, камісія прыняла рашэнне перайменаваць вуліцу Уручча ў Старынінскую. Прынялі новую назву аднагалосна.

Ірына Масляніцына.

*Падзеі*

# Трэба выдаць сёння

У наш час у беларускіх кнігавыдаўцоў цэлы шэраг праблем. У чымсьці яны агульныя — кошт паперы, складанасць з яе набыццём, падаражанне друкарскіх паслуг, адсутнасць дзяржаўнай дапамогі — той самай, якая раней субсідзіравала ўсе пачынанні, а зараз не здольна аказваць амаль ніякай дапамогі. На вялікі жаль, усе гэтыя праблемы, бы снежная лавіна, абрынуліся і на выдаўцоў гісторыка-дакументальнай серыі кніг "Памяць", якая была задумана, як даніна памяці нашым землякам, загінуўшым у час войнаў і рэпрэсій. Праблемы выдання кніг гэтай серыі не так даўно абмяркоўваліся на рэспубліканскай канферэнцыі, арганізаванай арганіцыйна-метадычным цэнтрам па выданню гісторыка-дакументальных хронік "Памяць" Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Інстытутам гісторыі, Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтрам імя Ф.Скарыны і галоўным архіўным упраўленнем пры Саюзе Міністраў Рэспублікі Беларусь.

У зале прысутнічалі тыя, каму быў даручаны збор асобных тамоў хронікі, а таксама спецыялісты-навукоўцы, якія супрацоўнічаюць зараз з выдаўцамі кніг гэтай серыі.

Істотнай складанасцю з'яўляецца тое, што ў ранейшых выпусках ільвіную долю кніг займалі матэрыялы, якія былі прысвечаны паслякастрычніцкаму перыяду гісторыі рэспублікі і кіруючай ролі камуністычнай партыі ва ўсіх дасягненнях. У цяперашні ж час усе гэтыя погляды прыходзіцца пераглядваць. "Памяць", на думку стваральнікаў гэтай серыі, павінна адлюстроўваць усю гісторыю кожнага з раёнаў. Некаторыя з удзельнікаў канферэнцыі, якія спасылаліся на гэтыя змяненні, патрабавалі нават адмяніць створаную рэкамендацыю па выпуску кніг і пачаць распрацоўку новай. Той-сёй з навукоўцаў патрабаваў, каб кнігі "Памяці" ператварыліся ў фундаментальныя зборнікі навуковых прац.

Акрамя складанасцей, абмяркоўваліся і перспектывы выпуску кніг. Гэтаму былі прысвечаны даклады кандыдата гістарычных навук А.П.Петрашкевіча, доктара гістарычных навук М.В.Біча "Аб асвятленні пытанняў гісторыі Беларусі перыяду капіталізму ў гісторыка-дакументальных хроніках "Памяць", доктара філалагічных навук А.І.Мальдзіса "Аб магчымай дапамозе беларускай дыяспары ў стварэнні серыі кніг "Памяць", доктара філалагічных навук А.С.Фядосіка і "Генеалагічныя і геаграфічныя даведнікі XVIII—XIX ст. як крыніцы для стварэння гістарычных хронік раёнаў В.Л.Насевіча.

Аб гэтых жа пытаннях гаварылася і ў іншых дакладах. Шмат прапаноў было выказана на канферэнцыі, шмат новых ідэй з'явілася ў стваральнікаў — складальнікаў гэтых кніг. Але асноўныя праблемы, ад якіх залежыць амаль гамлетаўскае пытанне "быць ці не быць", а дакладней — быць кнігам хронікі ці не быць, залежыць не ад удзельнікаў канферэнцыі і нават не ад выдаўцоў. Калі адпаведныя вышэйшыя ўстановы не дапамогуць, то "Памяць" згасне, бы вогнішча пад праліўным дажджом.

Калі ж адкласці — не выпусціць кнігі гэтай серыі зараз, то іх не выдаць і ніколі ў будучым, бо ўдзельнікі апошняй вайны адзін за адным адыходзяць у нябыт, бо сведкаў злачынстваў фашызму, культу асобы "правадыра і настаўніка" з кожным днём становіцца ўсё менш і менш, бо дакументы, якія з'яўляюцца галоўнымі крыніцамі для напісання хронік, гніюць, згараюць і здаюцца ў макулатуру за Бероўза, Чэйза і г.д. Калі кнігі серыі "Памяць" не выдаць сёння, то мы канчаткова ператворымся ў "людзей, не памятаючых сваяцтва" і для будучых пакаленняў будзем злачынцамі, якія загубілі гэту самую памяць.

Мікола Багадзяж.




# ЗАКОН СУПРАЦЬ ЗАКОНА

*Пэўна, сам закон будзе штурхаць да правапарушэнняў, калі ягоная літара дамоклавым мячом павісне над чалавекам, не ўлічваючы пэўных канкрэтных лёсаў. Відаць, не без сэнсу некаторыя сцвярджаюць, што калі нават сумленны чалавек па якой-небудзь прычыне вымушаны абысці закон, далейшы ягоны шлях будзе ўсё менш прынцыповы і менш сумленны. Бадай, нельга вінаваціць тут ні чалавека, ні заканадаўства. Мне здаецца, што справа ва ўзаемаадносінах, якія пануюць у грамадстве. І каб не займаць час абстрактнымі разважаннямі, раскажу пра свае пакуты, выкліканыя тым, што ў пэўнай сітуацыі я быў вымушаны адысці і ад закона, і ад сваіх прынцыпаў.*

Адзін выпадак імгненна справакаваў другі, і я адчуў, што трапіў у ланцуг, з якога цяжка будзе выбрацца. З другога боку — ці варта і выбірацца, бо цяпер ужо (а мо і з самага пачатку) канчатковы вынік прадбачваецца адзін: крыж на тым, пра што марыў, хоць мары мае зусім не пагражалі бяспецы іншых.

Не ведаў, куды скіраваць гэты ліст, бо вельмі лёгка перакрэсліць усё, што засталося. І падумаў, што праз газету можна было б падзяліцца сваімі развагамі з больш шырокім колам людзей, бо гэтыя праблемы носяць, бадай, не толькі асабісты характар. Адразу папярэджу, што сапраўднае прозвішча сваё я хаваю за псеўданімам, каб не збівацца на прыватнасці, больш шчыра раскрыць нейкія перыпетыі лёсу і не аддацца на волю стыхіі, якая ў нас цяпер пануе.

Я нарадзіўся пад сузор'ем Шаляў. Мо хтосьці іранічна паставіцца да гэтых астралагічных прымхаў, але прыкмячаў, што характары людзей усё ж нямала адпавядаюць гараскопу. І што да Шаляў, дык я і ў сабе заўважаў нейкую педантычную пільнасць да закона, ледзь не балеснае адчуванне несправядлівасці.

Успамінаю з дзяцінства такія досыць прыватныя, але вельмі характэрныя прыклады. Памятаеце часіны, калі многія грампласцінкі фірмы "Мелодыя" было цяжка дастаць? Я, як і большасць юнакоў, захапляўся папулярнай музыкай, шукаў запісы любімых выканаўцаў і нечакана адкрыў, што Апрэлеўская база пасылгандлю высылае многія "музычныя дэфіцыты". Дайшло да таго, што нават дырэктар аднаго з магазінаў грампласцінак угаворваў мяне "дастаць" яму дыск групы Манфрэда Мэна, які зусім не завозілі ў наш горад, узамен за права пастаянна купляць тавар проста са склада ягонай крамы. Я адчуў нешта амаральнае ў гэтым, адвярнула нават ад многіх жаданых дыскаў, якія там былі. І дырэктару, і многім знаёмым я проста даў адрас пасылгандлю і растлумачыў, як я рабіў заказы. І калі мне потым тыя знаёмыя па дзесяцікратнай цане "ўдувалі" іншыя дэфіцыты, было менш крыўдна, чым калі б я выжуліў сабе нейкія прывілеі.

Не падумайце, што я імкнуся стварыць з сябе вобраз нейкага бязгрэшнага анёльчыка. Хутчэй, я тут кажу пра сваё адчуванне граху. А што да бязгрэшнасці, дык настаў і ў мяне надлом, калі жыццё можна было працягваць толькі пасля хлусні, як ні прыкра мне гэта было.

Справа ў тым, што з дзяцінства я захварэў на цукровы дыябет. Спачатку мною апанавала трагічная думка: "Як жа гэта жыць усё жыццё хворым?". За школьныя гады, аднак, усвядоміў, што ніякай трагедыі няма, бо не было падстаў адчуваць сябе інакшым ад сваіх аднагодкаў, пакуль...

Пакуль не скончыў школу. Калі паўстаў перад выбарам прафесіі, раптам высветлілася, што дыябетыку нельга працаваць з рухомымі механізмамі, на вышынных працах, на шэрагу іншых і нават... вучыцца ў ВНУ. Я ўпершыню адчуў сябе зняволеным: мне дазвалялася рабіць толькі тое, што мне накажуць. За што?

Магчыма, тады ўпершыню адчуванне несправядлівасці справакавала **выразнае жаданне адказаць адэкватна: калі закон супраць мяне, дык і я павінен быць супраць закона.** Гэта натуральна: сіла дзеяння заўсёды роўная сіле процідзеяння.

Праўда, першая мая процізаконная акцыя была, бадай, толькі дробным хуліганствам: вырашыўшы паступаць у інстытут, я сабраў усе патрэбныя дакументы і той з іх, які з'яўляўся для мяне **воўчым білетам (медыцынская даведка формы № 286)**, проста папсаваў. У інстытуце, калі мне зрабілі заўвагу наконт перакамечанай даведкі, я сказаў, што штаны з дакументам у кішэні пабывалі ў пральні, а новую я не паспеў выпісаць. Спрацавала: хоць і папсаваны, але сапраўдны дакумент інстытуцкімі адміністратарамі нават не разглядаўся (яго хіба толькі акуратна падшылі), а паводле вынікаў экзаменаў я вытрымаў конкурс і паступіў у інстытут.

Чаму мне было нельга туды паступаць, да гэтага часу не ведаю, бо пасля заканчэння інстытута стаў, здаецца, не самым горшым спецыялістам. Больш таго, з атрыманай прафесіяй перада мной неўзабаве адкрыўся ўвесь свет: Амерыка, Азія, Еўропа. Ну і як вынік кожнага жыццёвага поспеху — пэўныя матэрыяльныя набыткі. І адзін з іх — мара дзяцінства — уласнае аўто любімай маркі "Сітраэн".

Калі даведаўся, што змагу яго купіць пад час чарговай замежнай паездкі, вырашыў, што пара паклапаціцца аб шаферскіх правах. Акурат на той час у друку з'явіліся паведамленні, што цукровы дыябет не будзе цяпер перашкодай у авалоданні навукай язды.

Зноў пайшоў збіраць усе даведкі ад псіхіятраў, нарколагаў і г.д. Медыцынскую камісію прайшоў без праблем. Калі разам з сябрамі прыйшлі па даведкі, усе атрымалі, а мне чамусьці не далі.

— Дык у вас жа цукровы дыябет, вам нельга ездзіць,— кажа старшыня камісіі.— А што да зменаў у правілах, дык нам газеты — не ўказ. Яны што хочаш цяпер пішуць.

Пасля непрацяглай спрэчкі выявілася, што абмежаванні знятыя з усіх формаў дыябету, акрамя маёй, таму канчатковае рэзюмэ будзе залежаць ад спецыялістаў рэспубліканскага ўзроўню.

Пасля блуканняў па медыцынскіх бюракратычных інстанцыях я прыйшоў да прыкрай высновы: калі ты сапраўды хворы, у дзяржаве можа на працягу дзесятка гадоў не знайсціся спецыяліста, каб цябе лячыць, затое калі ёсць патрэба абмяжоўваць цябе ў жыццёвых правах — тут яны напагатове. А ўжо сапраўды больш за дзесяць гадоў у нашай паліклініцы няма эндакрынолага, і я жыву без аніякага нагляду медыкаў. І жыву паўнакроўным жыццём. У мяне было і горшае, і лепшае адчуванне, але ўсе праблемы я вырашаў сам, без медыкаў. Дык навошта ж яны з'яўляюцца толькі тады, калі ты набіраеш разбег? Мо толькі дзеля таго, каб зручней паставіць ножку?

Я прыгадваў свае амерыканскія ўражанні, дзе шаферскія правы атрымлівае той, хто дэманструе свае здольнасці ездзіць. У нас чамусьці заўсёды ствараецца ланцуг апасродкаванай залежнасці.

Першая думка, якая прыйшла да мяне, гэта аб'явіць галадоўку. А паколькі ў гэтай галадоўцы не было нейкай глыбокай ідэі, я вырашыў завяршыць яе феерверкам, бо мне надакучыла гэтае пажыццёвае зняволенне. Пад час падрыхтоўкі да галадоўкі лёс звёў мяне з адным чалавекам, у якога я хацеў купіць бензіну, а выйшла, што купіў... шаферскія правы.

Не буду казаць, дзе я вучыўся ездзіць, на чым практыкаваўся, але свой "Сітраэн" я прыгнаў з Парыжа сам. Гэта было падарожжа ў некалькі тысячаў кіламетраў з "ліпавымі" правамі. Я праехаў нямала краінаў і ні ў адной не даў падставы затрымаць мяне за кепскую язду.

Першы раз мяне спынілі ўжо дома, а тут, як вядома, спыняюць без усялякай **нагоды. Дый тое я ўжо не першы месяц** ездзіў. Інспектар ДАІ хацеў пацікавіцца, чаму на маёй машыне ўсё яшчэ часовы парыжскі нумар, а напароўся на "ліпавыя" правы. І што вы думаеце, які фінал?

Ды нічога страшнага: за бутэльку гарэлкі службовец дазволіў мне парушыць закон чарговым разам.

Кожны параграф закона мае сваю таксу. Акрамя названага прыкладу, лёс дазволіў мне яшчэ прыцаніцца да праходжання тэхагляду: без правоў гэта можна зрабіць з трыма бутэлькамі гарэлкі.

Вось і выходзіць, што законы абараняюць не чалавека, а правы службоўца на хабар. Гэта агульная характарыстыка сітуацыі. А што рабіць у ёй канкрэтнаму чалавеку? Бо парадокс у тым, што нават інвалід можа ездзіць на сваёй інвалідцы, а я, са здаровымі рукамі, нагамі і галавой — не.

Я мяркую, калі закон не дазволіць мне адчуваць сябе роўным з іншымі, я буду жыць па-за законам, але на роўні з іншымі. Калі ж праследаванні нашага грамадства стануць невыноснымі, застанецца выбраць грамадства, якое прыме мяне, які я ёсць, не як злачынцу, а як асобу з пэўнымі канкрэтнымі правамі, абавязкамі, здольнасцямі. Што ж зробіш: калі чалавек нарадзіўся зняволеным, ён яшчэ мацней хоча вырвацца з путаў закона, бо не паспеў ажыццявіць злачынства. Хай сабе некаторыя лічаць злачынствам самое гэтае жаданне, але я цісну на педаль свайго "Сітраэна" тым мацней, чым гучней пошчак пагоні. Іншага не дадзена.

Андрусь КУРЭНІЧ.

**АД РЭДАКЦЫІ:**
Гэтая публікацыя, як бачыце, зусім не артыкул аб прававых праблемах. Гэта, бадай, проста шчырая споведзь, праз якую і журналісты, і іншыя кампетэнтныя бакі могуць выйсці на праблемы, якія перажывае не агулам усё нашае грамадства, а кожны канкрэтны чалавек. "Чырвонка" мяркуе працягваць гэтую рубрыку – "Спавядальня" – і запрашае іншых сваіх чытачоў падзяліцца сваімі болямі, праблемамі, пакутамі. Часам чалавека ратуе ў крызісныя часы сама магчымасць выказацца, а часам ён можа атрымаць і канкрэтную дапамогу газеты, ейных чытачоў, грамадскасці. Давайце будзем шчырымі!

# ПАМІЖ СЕКСАМ І КЕКСАМ

## Сумныя нататкі пра сексуальную рэвалюцыю

Ужо чым можа пахваліцца гісторыя нашай Айчыны, дык гэта рознага роду рэвалюцыйнымі з'явамі. Жнівеньскімі, лютаўскімі, кастрычніцкімі і іншымі. Але, аказваецца, засталася ўсё ж такі адна галіна ў нашым быцці, не кранутая ні бунтамі, ні пераваротамі. Калі заходзіць гутарка аб сексуальнай рэвалюцыі ў нашай краіне, уяўленне малюе занадта далёкую будучыню, каб пра гэта гаварыць усур'ёз.

Вядома, камусьці гэтая размова можа падацца не зусім своечасовай: людзям есці няма чаго. Але, шаноўныя мае апаненты, згадзіцеся, кожнаму сваё. Камусьці вырашаць праблемы эканомікі, а камусьці (як, напрыклад, ураду Рэспублікі Беларусь) выдаваць указы аб барацьбе з парнаграфіяй і да іх падобныя. Як гэта, дарэчы, было заўсёды: урад аддае перавагу разбурэнню, а не стварэнню. Нашмат лягчэй закрываць выданні, крэмзаць рукой бязграматнай цэнзуры старонкі газет, часопісаў і кніг, чым прапанаваць нейкую сваю сістэму "палавога лікбеза" грамадства, якая аказалася б больш "канкурэнтаздольнай".

Тое, што мы сёння называем палавой адукацыяй, проста смешна. Старшакласнікам застаецца толькі іранічна ўсміхацца на ўроках "Этыкі і псіхалогіі сямейнага жыцця", таму што за адзін выхадны дзень яны атрымліваюць больш сексуальнага вопыту, чым іх настаўніца за ўсё жыццё. Прычым, яны наўрад ці разумеюць, што робяць. А гутарка ж ідзе аб адным з важнейшых бакоў чалавечай сутнасці, і глабальную яе ролю ў развіцці асобы цяжка перааацаніць. Каб пачуць кампетэнтную ацэнку сітуацыі ў галіне сексуальнай культуры нашага грамадства, я звярнуўся да галоўнага сексапатолага Міністэрства аховы здароўя РБ Дзмітрыя Зіноўевіча КАПУСЦІНА.

– Так, вы маеце рацыю, – гаворыць Дзмітрый Зіноўевіч, – пра сексуальную рэвалюцыю нам гаварыць сапраўды рана. Я ўжо 18 гадоў працую ў галіне сексалогіі, і чым далей, тым больш пераконваюся ў тым, што сексуальная культура грамадзян турбуе наш урад менш за ўсё. Тыя рэдкія кнігі, якія ўдалося выдаць, з'яўляюцца кропляй у моры, а тое, што выходзіць зараз у камерцыйных выдавецтвах (за рэдкім выключэннем) – гэта пераклады заходніх крыніц, якія выдаюцца з кан'юнктурных меркаванняў. Інфармацыя падаецца вельмі бессістэмна. Наша моладзь, яшчэ не паспеўшы высветліць адказ на пытанне, адкуль бяруцца дзеці, ужо ведае аб існаванні заафіліі і іншых "пікантнасцях" сексалогіі.

— А якой, на ваш погляд, павінна быць сістэма?

– Мне здаецца, палавое выхаванне чалавека павінна пачынацца з таго ўзросту, калі ў дзіцяці ўзнікае натуральнае жаданне дазнацца, адкуль ён узяўся. Гэта значыць, гаворка ідзе аб секс-азбуцы. Наступная прыступачка – гэта фарміраванне правільнага ўспрыняцця ўзаемаадносін паміж поламі ў падлеткаў. А затым ужо паглыбленая адукацыя ў гэтай галіне маладых людзей. Прычым, гэты, трэці, крок павінен быць зроблены ў трынаццаці-шаснаццацігадовым узросце, у самы пік цікавасці чалавека да сексуальнай сферы, пасля якога сексу прызначаецца далёка не першае месца (у параўнанні, напрыклад, з кар'ерай) – чалавек лічыць сябе, як правіла, ледзьве не ўсёведаючым у гэтай галіне.

— Наколькі я зразумеў, ваша сістэма разлічана на падтрымку з боку дзяржавы?

– Не толькі на падтрымку, а на правядзенне адзінай дзяржаўнай палітыкі ў развіцці сексуальнай культуры грамадства. Бацькі ж, у пераважнай большасці, нават і не чулі аб праяўленнях сексуальнасці дзіцяці і аб тым, як да іх ставіцца. Некаторыя мамы і таты ледзьве не страчваюць прытомнасць, калі заўважаюць, што іх дзіця займаецца ананізмам. Неабходна старанная падрыхтоўка педагогаў, якія выкладалі б у школе (пачынаючы з малодшых класаў) культуру палавых узаемаадносін. І патрэбны кнігі, выданні, разлічаныя на чытачоў усіх узростаў, пачынаючы з буквара для маленькіх і заканчваючы сур'ёзнымі дапаможнікамі і энцыклапедыямі, прызначанымі для старэйшых.

Ва ўсіх цывілізаваных краінах ужо даўно існуюць шматлікія інстытуты, таварыствы, асацыяцыі, якія займаюцца сексуальнымі праблемамі грамадзян, вывучэннем грамадскага меркавання, рэабілітацыяй дзяцей, якія падверглісяі згвалтаванню і г.д. А калі наш Мінскі гарадскі сексалагічны цэнтр падрыхтаваў і ўласнымі сіламі правёў апытанне больш чым пяцісот школьнікаў, каб высветліць іх узровень сексуальных ведаў, гэта аказалася нікому не патрэбным. Міністэрства аховы здароўя гаворыць: вох, як гэта цікава. Камітэт народнай адукацыі: ды што вы кажаце, і сапраўды? Але ніякага зруху з мёртвага пункту. Нікога не цікавіць катастрафічны рост палавых злачынстваў у краіне, а таксама колькасць незадаволеных, проста няшчасных людзей, большасць з якіх так і не разумее за ўсё сваё жыццё, што гэта такое: "асабістае шчасце".

— Што ж Вы збіраецеся зрабіць?

– Зараз мы заняты падрыхтоўкай стварэння Беларускай асацыяцыі сексуальнай культуры, на якую ўскладаюцца вялікія надзеі. Разам са мной працуе ініцыятыўная група, куды ўваходзяць вядомыя юрысты, урачы, сексолагі, псіхолагі, педагогі, мастацтвазнаўцы, сацыёлагі. Асацыяцыя накіруе сваю дзейнасць на павышэнне агульнага культурнага ўзроўню насельніцтва. Аб якой жа культуры ў галіне інтымных зносін можа ісці гаворка пры адсутнасці культуры наогул? Мы будзем займацца таксама ўдасканальваннем прававых асноў сексалогіі, палавой асветай і выхаваннем; будзем аказваць садзейнічанне правядзенню дзяржаўных праграм, накіраваных на ўмацаванне сямейна-шлюбных адносін, на фарміраванне сацыяльна-дапушчальных форм палавых паводзін у моладзі. Асацыяцыя не пройдзе міма і такіх з'яў, як гомасексуалізм, прастытуцыя, парнаграфія і іншыя. Мы будзем імкнуцца ствараць такія ўмовы ў грамадстве, каб кожны чалавек, незалежна ад таго, чаму ён аддае перавагу ў сексе, не адчуваў дыскамфорту.

— Як Вы аднесліся да вядомага Указа ўрада РБ?

– Як я да яго аднёсся? Мы, як звычайна, спазніліся і тут гадоў гэтак на пяць. Той колькасці парнаграфічных газет, часопісаў, відэафільмаў, якая абрушылася на галовы, у першую чаргу, падлеткаў, хопіць для "самаадукацыі" мінімум 2-3 пакаленняў. Процідаставіць жа штосьці істотнае гэтаму "асветніцкаму" валу дзяржава так і не здолела. Наіўна чакаць, што з дзясятак экспертаў камісіі раптам вырашаць усе праблемы. Трэба не змагацца, не абмяжоўваць, а прапанаваць нешта ўзамен, прадаставіць чалавеку самому выбіраць у адпаведнасці з яго ўзроўнем культуры. Магчыма, варта дэманстраваць і больш адкрытыя фільмы, але з жорсткім абмежаваннем узросту наведвальнікаў і пад назіраннем спецыялістаў.

Вельмі неабходна правядзенне сацыялагічных даследаванняў палавых паводзін і палавых установак розных груп насельніцтва. Толькі тады можна будзе выйсці на распрацоўку рэальна дзеючай праграмы павышэння палавой культуры грамадзян нашай рэспублікі.

Аляксей Краўчанка.



## Прачытай і перадай іншаму

У 90-96 працэнтаў, заражаных СНІДам, антыцелы да ВІЧ (віруса імунадэфіцыту чалавека, які выклікае СНІД) з'яўляюцца ў крыві праз 3 месяцы пасля заражэння, у 4-10 працэнтаў — праз 6 месяцаў. У нязначнай колькасці людзей — праз 8 дзён ці... праз некалькі гадоў.

* * *

Праходзіць абследаванне на наяўнасць у крыві антыцелаў да ВІЧ трэба не раней, чым праз 3 месяцы пасля кантакту, які выклікаў падазрэнне аб магчымым заражэнні СНІДам...

* * *

Небяспечнасць заражэння СНІДам значна ўзрастае, калі палавы кантакт адбываецца пад час менструацыі.

* * *

Жанчына, якая заразілася СНІДам да цяжарнасці або пад час яе, можа заразіць сваё дзіця ў перыяд яго ўнутрывантробнага развіцця. Калі маці заразілася пасля родаў, то дзіця можа быць інфіцыравана толькі ў тым выпадку, калі яна корміць яго грудзьмі.

Падрыхтаваў М.Лібінтаў.

# Нітка Арыядны





Звычайна працоўная раніца начальніка крымінальнай міліцыі Лагойскага раёна Сцяпана Аляксандравіча Яраша пачынаецца з невялікага сшытка ў чорнай вокладцы. У ім – так званыя "глухары", нераскрытыя злачынствы. І хоць іх не так ужо шмат (райаддзел на добрым рахунку ў начальства), спецыялісты кожны дзень ломяць галаву над гэтым сшыткам, паступова высвятляючы новыя факты – маленькія "ніткі Арыядны" да заблытанага клубка злачынства.

Лагойскі раён – адзін з самых вялікіх у Мінскай вобласці, і часам супрацоўнікам вышуку (а іх усяго пяць чалавек) даводзіцца цяжкавата: на ўсё падраздзяленне – старэнькі "УАЗік". Да таго ж, у раёне пастаянна адчуваецца "подых вялікага горада", які заносяць сюды "гастралёры" – у асноўным, рабаўнікі. Калі зрабіць яшчэ папраўку на наш нялёгкі час, можна зразумець, чаму злачыннасць у раёне з пачатку года ўзрасла амаль удвая. Тым не менш Лагойская крымінальная міліцыя раскрыла за гэты час 76 працэнтаў злачынстваў.

– Сёння, бадай. ніводнае расследаванне не абыходзіцца без прымянення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў,– пераканаы Сцяпан Аляксандравіч. Гэтае перакананне – з тых часоў, калі ён быў яшчэ толькі пачынаючым сышчыкам і 42 кіламетры прайшоў па следу буйнога канакрада. А колькі такіх кіламетраў на шляху кожнай сышчыцкай кар'еры – наўрад ці хто падлічыць.

– Аднак вельмі важна ўмець устанавіць псіхалагічны кантакт з падазраваемым,– дадае Яраш. І ў гэтым, пэўна, ніводны супрацоўнік вышуку не параўнаецца са сваім начальнікам: за яго плячыма, акрамя службы ў войску, – настаўніцкая праца. Менавіта дзякуючы гэтаму свайму ўменню Сцяпан Яраш раскрыў зусім нядаўна "двайное" злачынства – забойства са згвалтаваннем.

Павел Сіманаў,
Сяргей Брушко (фота).



На ЗДЫМКАХ:

- Начальнік крымінальнай міліцыі Лагойскага раёна С.А. Яраш у час допыту.
- Оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку І.Ліцвін (за 3 месяцы бягучага года ён раскрыў каля 30 злачынстваў) у лабараторыі старшага эксперта-крыміналіста А.Варанкевіча.
- У падраздзяленні — стрэльбы.

*Экспрэс-інтэрв'ю*

# КУДЫ ГЛЯДЗІЦЬ МІЛІЦЫЯ?

*Крызіс эканомікі, жудасны ўзровень дэфіцыту на спажывецкім рынку рэзка абвастрылі ў апошні час крыміногенныя тэндэнцыі ў эканоміцы.*

*Аб тым, што робіць сталічная міліцыя ў гэтай сітуацыі, распавядае начальнік аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю (АБЭЗ) Мінгарвыканкама падпалкоўнік міліцыі М.АНЦІХЕВІЧ.*

– Мікалай Віктаравіч, сёння рынак імгненна мяняе аблічча, і вашай службе даводзіцца перагрупоўваць сілы, сродкі, шукаць больш эфектыўныя метады. Ці паспяваеце?

— Мяркуючы па тым, што вынікі працы за мінулы год прынеслі нам лаўры лепшых у рэспубліцы, напэўна, паспяваем.

У мінулым годзе супрацоўнікі нашай службы ўзбудзілі крымінальных спраў на 41 працэнт больш, чым у папярэднім. Павялічылася і колькасць выяўленых крадзяжоў, фактаў хабарніцтва і падману пакупнікоў.

Але ў многіх выпадках нашыя меры аказаліся яўна неадэкватнымі маштабам ценавой эканомікі і памерам крадзяжоў у народнай гаспадарцы. Адна з галоўных прычын гэтага — састарэлыя заканадаўчыя акты, якія павінны быць заменены на больш эфектыўныя. Час мяняецца, і тое, што ўчора крымінальна каралася, сёння набывае афарбоўку здаровага бізнесу. Яшчэ адна прычына — халатнасць і бяздзеянне адказных за захаванне дзяржаўнай маёмасці на прадпрыемствах і ў арганізацыях.

Узяць, да прыкладу, Мінскі аўтазавод. Амаль штодня аператыўныя зводкі паведамляюць аб крадзяжы з завода-гіганта. Нядаўна злачынцы, перапілыўшы замкі на кантэйнерах, выкралі з тэрыторыі завода запчастак на 30 тысяч рублёў. А адолець жа такія замкі — справа не пяці хвілін. Дзе ж была ахова?

Літаральна днямі супрацоўнікі нашага аддзела разам з калегамі з Упраўлення крымінальнага вышуку выкрылі злачынную групу (пяць чалавек арыштаваны), якая імкнулася вывезці з тэрыторыі Мінскага роварнага завода больш чым сем тон анодната нікелю — каштоўнейшай сыравіны. Гэтая партыя нікелю, паводле задумкі злачынцаў, павінна была накіравацца ў адну з заходніх краін. У гэтай гісторыі фігуруюць некаторыя "вохраўцы", атрымаўшыя хабар у валюце. Вось вам і адказ: ведамасная ахова, бывае, нават дапамагае злачынцам.

– У апошні час перад вашай службай, відавочна, вызначыліся новыя, найбольш крыміногенныя накірункі...

— Так, гэта сфера кааператыўнай і знешнеэканамічнай дзейнасці, а таксама розныя камерцыйныя ўтварэнні.

У гэтым годзе ў сферы кааператыўнай дзейнасці выяўлена амаль на 78 працэнтаў больш злачынстваў, чым у мінулым годзе. Дзялкі ценявога бізнесу перамясціліся менавіта ў гэтыя структуры.

– Якія з апошніх выкрытых гарадской службай БЭЗ злачынстваў Вам запомніліся?

— У мінулым годзе народным судом Ленінскага раёна быў асуджаны нідзе не працуючы І.Падгайскі, які, сабраўшы злачынную групу з пяці чалавек, займаўся продажам высакапробнага золата. З дапамогай розных пасрэднікаў ён скупліваў на прамысловых прадпрыемствах радыёдэталі, у якіх мелася золата. Потым хімічным шляхам вылучаў яго і прадаваў. Нашы супрацоўнікі затрымалі Падгайскага з доказамі злачынства, пры продажы золата на суму звыш 170 тысяч рублёў. Акрамя золата і серабра, у Падгайскага было канфіскавана некалькі тысяч рублёў, два пісталеты (газавы і малакаліберны), балончык са слёзатачывым газам, імпартная відэаапаратура, магнітола, аўтамабільны тэлевізар і іншыя рэчы.

– Мікалай Віктаравіч, кожны раз, гледзячы на яркія замежныя грузавікі з гуманітарнай дапамогай, што стаяць на плошчы перад Домам урада, прыгадваюцца размовы аб імпартных рэчах і вітамінах на прылаўках кааператыўных кіёскаў...

— Намі адладжана сістэма паступленняў у сталіцу грузаў з гуманітарнай дапамогай. Больш таго, мы кантралюем працэс паступлення ў сталіцу грузаў з моманту яго перасячэння дзяржаўнай граніцы і да размеркавання ў якой-небудзь канкрэтнай арганізацыі. Далейшы лёс гэтай дапамогі ляжыць на сумленні адказных асоб за размеркаванне на гэтых прадпрыемствах.

Хацелася б параіць кіраўнікам арганізацый, якія сталі гаспадарамі падобных грузаў: груз прымайце больш якасна (каб выключыць выпадкі крадзяжу) і да працэсу размеркавання падключайце больш аўтарытэтных работнікаў, прадстаўнікоў дэпутацкага корпуса.

– Вы прыгадалі састарэлыя заканадаўчыя акты. Відаць, гэта адносіцца ў першую чаргу да артыкула 151 Крымінальнага кодэкса (спекуляцыя)?

— І да гэтага артыкула таксама. Сёння вельмі шмат людзей жывуць толькі на перапродажы тавараў. Выявіць і пакараць усіх немагчыма, ды і ці трэба гэта рабіць у новых эканамічных умовах, калі працэс перапродажу, практычна, з'яўляецца нармальнай з'явай? Трэба ўвесці дакладную сістэму падаткаабкладання і рэгістрацыі ўсіх, хто прадае тавары або прадукты.

– І апошняе пытанне, Мікалай Віктаравіч. Скажыце, за апошнія год-два ці мелі месца выпадкі злоўжывання службовым становішчам супрацоўнікамі гарадской службы БЭЗ?

— Выпадкі парушэння супрацоўнікамі дысцыпліны былі, і ўсе вінаватыя пакараны. Што тычыцца злоўжывання службовым становішчам — не прыгадваю, не было такога.

Гутарыў С.Рачыла.



*Люблю „Чырвонку"! Жадаю ей і надалей гэтак жа настойліва і смела зваць моладзь [illegible], каб стаць Гаспадарамі сваёй Бацькаўшчыны і „ісці ў свет белы..."*

*[illegible]*

# "СВЯТЫНІ НЕ ПРАДАЮЦЦА"

*Прыблізна год таму ў "Чырвонцы" было надрукавана інтэрв'ю з дырэктарам тэатра імя Янкі Купалы Іванам Іванавічам Вашкевічам. Тады мы размаўлялі аб культуры, аб чалавеку і ягоным месцы ў гэтым свеце, аб нацыі. Час змяніўся, змяніліся людзі, змяніліся погляды іх на жыццё. Ці засталіся непахіснымі ў гэтым калавароце тыя каштоўнасці, якія ад веку лічацца вечнымі?*

— Іван Іванавіч, сённяшняя Беларусь ужо зусім не тая, што была ўсяго год таму. Як Вы лічыце, чым на сённяшні дзень з'яўляецца нацыянальны тэатр?

– Калі коратка: тэатр – сканцэнтраванае адлюстраванне нашага жыцця. Безумоўна, гэтыя словы пра тэатр можна сказаць у любыя часы. Але ўсё ж ... Падзеі апошняга часу пакідаюць свой след і на нашай працы. І галоўная з іх – гэта абвяшчэнне незалежнасці Беларусі. Я нават напісаў некалькі радкоў, калі ўрэшце ажыццявілася гэтая мара лепшых сыноў Беларусі:

*Родныя мае спадары!*
*Нарэшце стаім на сваёй зямлі.*
*Вольныя, гордыя гаспадары*
*Лёсу свайго і мовы.*

Не думаю, што тут надзвычай высокая паэзія, але настрой таго дня выказаны дакладна. Тады ўсе мы з гэтай нагоды хадзілі з бліскучымі вачыма. За гэта мы выступалі даўно і бел-чырвона-белы штандар узнімаўся ў нашым тэатры яшчэ за некалькі год да яго афіцыйнага прызнання. Сённяшняя наша мэта – паказ жыцця няўстойлівага, з невядомай перспектывай, але і мудрасці, памяркоўнасці беларускага народа. Манкурты, народжаныя беларусамі і якія слухаюць камісараў з Масквы, могуць называць гэта рабскімі рысамі, а я скажу – гэта найлепшыя і найгалоўнейшыя якасці. І яны выратуюць нас як нацыю.

— А якія якасці нам не на карысць?

– Я шмат паездзіў і заўважыў у нашай, ды й не толькі ў нашай – ва ўсёй славянскай інтэлігенцыі такую рысу: яны пакутуюць, перажываюць нібыта за народ, імкнуцца, здаецца, нешта зрабіць, кажуць:"Паедзем, будзем працаваць!" Але так нічога і не робяць. Ды і ў любой справе павінна прысутнічаць кампетэнтная, разумная якасць. Без яе ўсе спрэчкі ў Вярхоўным Савеце застануцца на ўзроўні:"Што трэба, а што не трэба нашаму беднаму народу?" Такія якасці варта набываць. Але ўжо за адны толькі законы аб незалежнасці, мове, культуры дэпутатам ВС трэба сказаць вялікі дзякуй. Можна спрачацца – у свой час, не ў свой час яны прынятыя – у гісторыі некалькі дзён вялікай ролі не іграюць. За некалькі дзён толькі рэвалюцыі робяцца, а іх нам ужо досыць. Галоўная ж праца яшчэ наперадзе і таму неабходна станавіцца больш дзейснымі,рашучымі і кампетэнтнымі.

— Вернемся ўсё ж да тэатра. Як жывецца яму ў час рынычных адносін?

– Вельмі цяжка, хоць і прыняты закон, дзе ўказана, што 3 працэнты дзяржаўнага бюджэту накіроўваецца на культуру, але Мінфін і Дзяржкампрацы не выконваюць усе палажэнні закона. Было шырока аб'яўлена, што павышэнне зарплаты адбудзецца ў 2,4 раза. А вось чыноўнічкі пралічылі, далі нам нарматывы і там як ні возьмеш: дзе ў 2,1 раза, а дзе і таго меншае павышэнне. Ці, напрыклад, увесну мінулага года сустракаліся мы з Кебічам, вырашылі шэраг сур'ёзных пытанняў, але ўсё на гэтым і скончылася. Абяцанкі-цацанкі – дурням радасць, а дурняў жа ў нас няма. Ці былі, напрыклад, замацаваны за паліклінікай Саўміна заслужаныя артысты, іншыя дзеячы культуры. Чыноўнікі вырашылі паказаць, што ў нас прывілеяваных няма і колькасць асоб па спецабслугоўванню скарачаецца. І скарацілі – артыстаў, дырэктараў тэатраў, пісьменнікаў, доктараў навук... А ці ж яны там галоўныя былі? Як старшыня савета дырэктараў Саюза тэатральных дзеячаў я пачаў цікавіцца: чаму так адбылося. Мне адказваюць:"Мы ўзялі пад сваю апеку цэлую вуліцу – Чырвонаармейскую". А хто ж там жыве? Сем'і былых партакратаў! Не кіем дык палкай! А ці шмат у нас тых народных артыстаў, такіх, як Станюта, Макарава? Паўтара дзесятка на ўсю рэспубліку. А такая атмасфера, такія адносіны ўздзейнічаюць, у рэшце рэшт, на творчасць, на здароўе.

У мінулым годзе пражылі мы яшчэ нічога, больш-менш. Атрымалі грошы пад гэтыя "законныя" 3 працэнты і нават правялі вялікі "Фестываль славянскіх тэатраў". На гэты год таксама планы маем сур'ёзныя. Мы ж павінны ўлівацца ў сусвет не толькі эканамічна, але і культурна. І ў гэтым плане нам ёсць што паказаць. "Харошкі" – гэта "Харошкі", апантаная Гаявая – гэта Гаявая і Раеўскі – гэта Раеўскі. Нідзе ў свеце няма нічога падобнага. Не толькі фізічна, але ж і па ідэі. Гэта ўсё вышэйшы мастацкі ўзровень. Любая дзяржава павінна ганарыцца такімі людзьмі. А некаторыя, нават з дэпутатаў ВС кажуць:"Ну што нам гэты тэатр?" У іх уяўленні гэта нейкі невялічкі будыначак, дзе некалькі акцёраў корпаюцца, нешта робяць няпэўнае. Яны не разумеюць, што гэта велізарны духоўны патэнцыял. Людзі тут працуюць не толькі таленавітыя, але і свядомыя, да іх трэба прыслухоўвацца, ды й прыходзіць у тэатр, каб душы адтайвалі. Прыходзіў жа да нас Машэраў, прысутнічаў нават на рэпетыцыях. Гэта з яго дазволу мы ставілі тады "Пагарэльцаў".

— Ці спадзеяцеся вы і ў гэтым годзе атрымаць сваю частку з 3 працэнтаў і ці хопіць вам гэтых грошай?

– Мы ж не наіўныя дзеці, бачым, што вакол робіцца. І калі надалей у эканоміцы будзе адбывацца спад, то і нам прыйдзецца несалодка. Трэба будзе самім неяк выкручвацца. Я гатовы, у мяне свае варыянты ёсць. Не будзем, напрыклад, рабіць вялікія палотны. Хоць гэта і дрэнна, але нічога не зробіш. Па шчырасці, адчуванне няўпэўненасці і трывогі існуе. Але надзея нас не пакідае. На лепшае.

— Іван Іванавіч, Вы ведаеце шмат каго з вышэйшага кіраўніцтва, як яны ставяцца да сённяшніх праблем тэатра?

– У мінулым годзе прынятыя па культуры законы далі нам магчымасць выжыць, а ў гэтым... Шмат чаго не зроблена. Падпісаны афіцыйны дакумент аб пабудове тэатра, аб'явілі конкурс праектаў, ды так і заглухла ўся справа. Тэатру павінны былі выдзеліць "рафік", грузавік і аўтобус – і сёння гэтага няма. У хуткім часе трэба ехаць у Еўропу – французы разам з намі зрабілі адзін праект – немцы "Ікарус" не прапускаюць: не адпавядае тэхнічным патрабаванням. Таму можна сказаць, што нешта робіцца, але ж не столькі і не так як хацелася б. Калектыў тэатра наважыўся нават выходзіць на пляц Незалежнасці са сваімі патрабаваннямі, але стрымаўся.

— Вы сказалі, што ў вас ёсць свой план па выратаванню тэатра. Што туды ўваходзіць?

– Акрамя таго, што я сказаў, мной распрацавана сістэма матэрыяльнага заахвочання, скіраваная на тое, каб кожны адчуваў сябе гаспадаром і атрымліваў за сваю працу.

— Толькі вось ці зразумеюць вас Мінфін і Дзяржкампрацы?

– У рэшце рэшт павінны падтрымаць. Канешне, у іх меркі на мастацтва як на вытворчасць. Для іх тыя словы, што артыст працуе нават у сне, як анекдот. Артысту трэба плаціць, акрамя зарплаты, прэміяльныя за творчасць, за колькасць сыграных роляў і гэтыя прэміяльныя нават падаткам не павінны абкладацца. Буду выходзіць з гэтай прапановай на Камісію па справах культуры пры ВС. Не ўпэўнены, што прымуць.

— Калі заўтра ўрад адмовіць вам у фінансаванні — гэта будзе катастрофа для тэатра?

– Гэта і сапраўды будзе катастрофа. Але я сабе ўявіць такой сітуацыі не магу. Ва ўрадзе людзі ў большасці сваёй усё ж кампетэнтныя сядзяць. Нават у вайну нацыянальныя тэатры захоўваліся і берагліся. Калі вораг быў пад Масквою, наш тэатр знаходзіўся ў Томску.

Нацыянальны тэатр не можа існаваць за кошт білетаў. Кожная дзяржава мае свае нацыянальныя тэатры і поўнасцю забяспечвае іх. А што тэатр зарабляе – тое яго, на прэміі артыстам. Калі мы зараз зробім білеты коштам 15–20 рублёў, мы страцім апошняга гледача.

— На Захадзе распаўсюджана сістэма прыватных аркестраў, тэатраў. Ці сталі б вы прыватным тэатрам якогасьці мільярдэра?

– Гонар нацыі, гонар дзяржавы не дазволіць такога зрабіць. Нацыянальныя святыні заўжды берaглі. Тэатры будуць у нас розныя. І прыватныя ў тым ліку – збірай грошы і засноўвай. А святыні не прадаюцца.

— У апошні час з'яўляюцца звесткі аб тым, што КДБ сачыла за асобнымі прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі і цэлымі калектывамі. Ці было такое ў вашым тэатры?

– Гэта сістэма сачыла за ўсім. А паколькі творчы чалавек можа стаць дэтанатарам выбуху, то за ім догляд асаблівы. Безумоўна, сачылі і за нашым калектывам. Сёй-той хадзіў і дакладваў аб усім.

— Вы ведалі гэтых стукачоў?

– Былі такія-сякія меркаванні, толькі баюся памыліцца. Але вось такі прыклад. Прыйшоў я дырэктарам у тэатр у 1982 годзе і як старшыня мастацкага савета паставіў на пасяджэнні пытанне: за дрэннае валоданне мовай паніжаць артыстам зарплату. І адразу ж у славутую ўстанову паляцела ананімка: Вашкевіч – нацыяналіст. Але ж хірург не можа рабіць аперацыю бруднымі рукамі. Так і ў нас.

— На працягу некалькіх год вы былі членам ЦК КПБ. Як гэта атрымалася, гэта была неабходнасць?

– З дзяцінства камуністычную ідэю я бачыў не як вульгарную ідэалагічную структуру, якая існавала ў нашай краіне на самай справе. Я за сацыялізм. Але за сацыялізм швейцарскі, бельгійскі, канадскі, а не той, што будаваўся ў нас. А чаму я туды пайшоў? Я ўжо казаў, што і сёння ў Вярхоўным Савеце вельмі мала прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі. А на той час орган ЦК шмат даваў для ўздзеяння на ўсю палітыку і існаванне народа духоўнае і культурнае. Удзельнічаючы ў працы гэтай структуры, я са сваімі аднадумцамі марыў шмат чаго зрабіць. Гісторыя так крутнула, што КПБ адышла ад улады ў дзін час. Але калі б не было ГКЧП, яна б яшчэ доўга трымалася і дэмакратычныя змены трэба было б праводзіць і знутры гэтай структуры, таму я там і быў.

— Беларускае згуртаванне вайскоўцаў чакае, што ў Маскве адбудзецца новы пераварот, і рыхтуецца да абароны Дома ўрада. Толькі ці не з'яўляюцца больш небяспечнымі ў гэтым сэнсе нашы партакратчыкі?

–Я рэаліст і ўпэўнены, што армія набыла зусім іншую якасць. Яна не будзе рабіць тое, чым нас палохаюць. І трэба баяцца не фізічнай расправы, а эканамічнай экспансіі. Каб усю Беларусь не скупілі на корані. А моцнага палітычнага супрацьстаяння ў нас не будзе.

— Як Вы лічыце, ці стане Мінск у сувязі са стварэннем СНД культурным цэнтрам Садружнасці?

– Безумоўна, павінен стаць. Але для гэтага шмат чаго трэба. Вось насупраць тэатра будуецца Палац рэспублікі. Напэўна, ён патрэбны. Толькі калі мы хочам, каб да нас ехалі з усяго свету, неабходна будаваць першакласныя гатэлі, рэстарацыі і іншыя ўстановы, у якіх госці маглі б добра правесці час. Да нас прыехалі французы. Тэатр наш ім вельмі спадабаўся, але ад той ежы, якой іх частавалі ў рэстарацыі, у іх страўнікі балелі. А страўнікі ў гасцей не павінны балець, калі мы жадаем увайсці ў сусветную садружнасць.

Гутарыў
Зміцер Лукашук.

